ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 39 (2337) 30 верасня 1993 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 10 рублёў.

# ЛЁС — І НАД ЛЁСАМ

## ДА 90-Х УГОДКАЎ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ НАТАЛЛІ АРСЕННЕВАЙ

Якая постаць... Якая значная знешнасць... Характар... І тое, што маюць на ўвазе, гаворачы: парода. Размова нават не пра генеалагічнае дрэва (хаця яно таксама і слыннае, і старадаўняе), а пра тое, што даецца Натурай і адточваецца працай душы.

... Наталля Арсеннева на партрэце работы Пётры Мірановіча. Жанчына ўжо не першай, вясновай пары. Але ва ўзросце, калі праяўлена асоба. Асоба з тых, адметных індывідуумаў, у якіх адчуваецца сапраўдна агульнае. У Наталлі Арсеневай — выяўленае ў паэзіі. Вось тое: "... песня твая зацвіла зачараванай казкаю..." Словы Максіма Танка з верша "Нашы шляхі", прысвечанага Наталлі Арсенневай. А пачынаўся ён словамі, якія прароча спраўдзіліся ў жыцці: "Нашы дарогі расходзяцца даўна пад зорамі..."



Дарогі разышліся, мабыць, куды больш далёка, як маглі сабе ўявіць Максім Танк і Наталля Арсеннева, упершыню сустрэўшыся ў 1937 годзе ў Вільні, на пасяджэнні Беларускага навуковага таварыства, наладжанага ў інжынера Трэпкі. Народны паэт Беларусі, рэдактар часопіса "Полымя", старшыня Саюза пісьменнікаў, літаратар, якога ведае кожны школьнік, — і паэтка эміграцыі, нават прозвішча якой некалькі дзесяткаў год было пад забаронай.

У кожнага з іх свой лёс, свая драма душы. У кожнага — творчасць. Перадусім менавіта творчасцю цікавыя нам яны. Творчасцю, у нечым непасрэдна звязанай з лёсам кожнага, канкрэтнымі абставінамі жыцця, а ў нечым адстароненай, адчужанай, падвышанай духоўным вопытам, сягненнямі вышэйшага парадку.

Што датычыць абставін жыцця — Наталля Арсеннева па бацьку з таго роду Арсенневых, што далі М.Ю.Лермантава — яны, мабыць, яшчэ будуць пільна вывучацца даследчыкамі. Складаныя абставіны складанага жыцця. А ці ж былі простыя пуцявіны ў тых, хто нарадзіўся на пачатку XX стагоддзя і каму наканавана было мець радзімай краіну, якую кроілі, перайначвалі ў межах, дзе адзін жорсткі рэжым змяняўся другім.

(Заканчэнне на 6-й стар.).

## ЭНЕРГАРЭСУРСЫ: ШТО РАБІЦЬ, КАЛІ ІХ МАЛА?

# НАВУЧЫЦЦА ЛІЧЫЦЬ І БЕРАГЧЫ

**Аб праблемах энергазберажэння і нетрадыцыйнай энергетыкі "Голас Радзімы" ўжо пісаў. Сёння мы зноў узнімаем гэтую тэму. І вось з якой нагоды. Нядаўна створаны пазаведамасны дзяржаўны орган — Камітэт па энергазберажэнню і энергетычнаму нагляду пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь. Яго ўзначаліў Леў ДУБОВІК. Гутарка нашага карэспандэнта з ім была працяглай і цікавай.**

— Перш чым прыступіць да праблем нетрадыцыйнай энергетыкі, мне хацелася б даведацца, якія патрэбы нашай рэспублікі ў энерганосьбітах і як рацыянальна яны выкарыстоўваюцца.

— Мы выкарыстоўваем у год 70 мільёнаў тон умоўнага паліва, якое паступае да нас у асноўным з Расіі: нафта, газ і мазут. З гэтага аб"ёму толькі 10 працэнтаў з нашых уласных крыніц. Аднак тое, што мы маем і атрымліваем, выкарыстоўваецца вельмі нерацыянальна. У нас старыя тэхналогіі, пры якіх прадугледжваецца выкарыстанне вялікай колькасці паліва ці энергарэсурсаў на выпуск адзінкі прадукцыі. Напрыклад, у сельскай гаспадарцы, калі параўноўваць расход энергарэсурсаў на 1 тону малака ў нас і ў краінах Заходняй Еўропы, дык розніца атрымліваецца ў тры разы. У тры разы больш мы выкарыстоўваем рэсурсаў на вытворчасць 1 тоны малака! І прывад у нас устарэлы, і падбор электраабсталявання, там, дзе патрэбны электрарухавік 5 кілават, устанаўліваюць 7—10-кілаватны. Гэта і ёсць нерацыянальнае выкарыстанне.

Тэхналогія прыгатавання цэменту, так званая "мокрая тэхналогія", таксама адбываецца вялікім расходам ампер. Мы зараз выкарыстоўваем на аднаго чалавека столькі паліва, колькі выкарыстоўваецца ў сярэднім у 12-ці краінах ЕЭС. А выпускаем прадукцыі ў 2 разы менш на гэты выкарыстаны рэсурс. Вось дзе нам трэба эканоміць і па-гаспадарску зберагаць энергарэсурсы.

Пры выкарыстанні ўсіх відаў нетрадыцыйнай энергетыкі мы зможам ужо цяпер атрымаць да 4 працэнтаў эканоміі. А калі будзем ствараць новыя тэхналогіі, праводзіць нарміраванне, уводзіць эканамічны механізм, то тут магчыма эканомія да 40 працэнтаў.

Павінна быць новае заканадаўства, якое прадугледжвала б і стварала прававыя ўмовы і эканамічны механізм для таго, каб эфектыўным было энергазберажэнне.

Лепшыя прадпрыемствы Дзяржбуда і Дзяржіндустрыі ўжо вядуць работу па стварэнню сценавых панеляў, перакрыццяў і іншых канструкцый будынкаў, у якіх гідраізаляцыя будзе ў 2—3 разы вышэйшай. Мерапрыемствы па энергазберажэнню, укладзеныя сюды сродкі акупяцца праз 3—4 месяцы.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## З ПЛЫНІ ЖЫЦЦЯ

**Памылковыя мэты і няпэўныя каштоўнасці доўгія гады валодалі нашымі душамі. З разбуранымі храмамі часам назаўсёды страчвалася тое, што ва ўсе часы вызначала веліч нашага народа. На шчасце, разбуральны працэс спынены. Божыя храмы зноў набываюць сваё сапраўднае прызначэнне. Але які неверагодна цяжкі гэты шлях адраджэння!**

# БЯСКОНЦАЯ ДАРОГА ДА ХРАМА

Чацвёрты год мінскія католікі вядуць перагаворы з гарадскімі ўладамі і Саветам Міністраў аб вяртанні ім будынка Кафедральнага касцёла Прасвятой Дзевы Марыі (плошча Свабоды, 9), які пастановай ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР ад 27 ліпеня 1948 года быў перададзены добраахвотнаму спартыўна-фізкультурнаму таварыству прафсаюзаў. І вось з таго часу галоўны каталіцкі храм Беларусі — Дом фізкультуры.

За доўгі час перагавораў прыхаджане дабіліся толькі таго, што год назад ім дазволілі арэндаваць адну з залаў на 3-м паверсе. Гэта, натуральна, ніяк не ўпісвалася ў планы кіраўніцтва Дома фізкультуры. Многа разоў "гаспадары" спрабавалі сілай выжыць прыхаджан. Чамусьці чаму, а метка наносіць удары і бязлітасна біць тут вучаць вельмі добра. Зусім нядаўна некалькі пажылых жанчын, збітых юнакамі-спартсменамі, вымушаны былі звярнуцца да ўрачоў па медыцынскую дапамогу. Фізічная расправа раз-пораз змянялася псіхалагічнымі атакамі — зрываліся іконы і святое распяцце Ісуса Хрыста.

Аб якім выхаванні падлеткаў, аб якой духоўнасці можна тут гаварыць?! Спартыўны дэвіз: "У здаровым целе — здаровы дух" гучыць у данай сітуацыі як насмешка. Але ж без духоўнай першаасновы занятак спортам вядзе да дэградацыі асобы.

Не разумець усяго гэтага нашы ўлады, натуральна, не могуць, як і не бачыць таго, што атмасфера вакол кафедральнага касцёла — Дома фізкультуры напалена да крайнасці.

(Заканчэнне на 3-й стар.).



# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ЦЕНЯВЫ КАБІНЕТ*

## АПАЗІЦЫЯ НЕ СПІЦЬ

**У канцы верасня — пачатку кастрычніка ў беларускім друку будуць апублікаваны звесткі аб функцыях, структуры і складзе "ценявога кабінета". Аб гэтым карэспандэнту БелаПАН паведаміў народны дэпутат рэспублікі, намеснік лідэра парламенцкай апазіцыі Уладзімір Заблоцкі. Па яго словах, адначасова будзе яшчэ раз апублікавана апазіцыйная канцэпцыя эканамічнага развіцця рэспублікі, ужо дапрацаваная пасля першай яе публікацыі.**

**"Прыналежнасць да апазіцыі не гарантуе ўдзелу ў "ценявым урадзе", — падкрэсліў Уладзімір Заблоцкі. Напрыклад, некаторыя "партфелі" будуць прапанаваны пэўным дырэктарам прадпрыемстваў. На кожную пасаду, хутчэй за ўсё, будзе прапанавана некалькі кандыдатаў. Той-сёй з іх ужо цяпер сур"ёзна рыхтуецца да работы, у тым ліку на пасадах "ценявых" міністра фінансаў і Старшыні Нацыянальнага банка. Акрамя таго, у склад "ценявога кабінета", згодна з папярэднімі данымі, увойдуць прэм"ер-міністр і яго намеснік, тры "сілавыя" міністры, міністры эканомікі і транспарту, адукацыі, медыцыны, культуры і інш. — усяго каля дваццаці чалавек. Магчымыя іх стажыроўкі ў навуковых цэнтрах, у тым ліку на Захадзе.**

*ХТО ЗА?*

## АДНАВІЦЬ СССР

**Згодна з вынікамі апытання, праведзенага ў Мінску беларускай сацыялагічнай службай "Грамадская думка", ідэю аднаўлення СССР у ранейшым выглядзе падтрымліваюць 16,1 працэнта рэспандэнтаў.**

**За ўваходжанне Беларусі ў склад Расійскай Федэрацыі ў якасці аўтаномнай рэспублікі выказалася 4,3 працэнта, за стварэнне канфедэрацыі з Расіяй і іншымі былымі рэспублікамі СССР — 11,5. Заключэнне з Расіяй палітычнага, эканамічнага і ваеннага саюза адобрылі б 16,1 працэнта, толькі эканамічнага — 19,3. 22,1 працэнта жадалі б, каб рэспубліка будавала адносіны з Расіяй як незалежная дзяржава на падставе прынцыпаў міжнароднага права. 10,6 працэнта апытаных не змаглі ці не захацелі адказаць.**

*"Ва ўсіх рэгіёнах Беларусі, ва ўсіх абласцях па ініцыятыве тых ці іншых сіл (напрыклад, аблвыканкомаў, старшынь аблвыканкомаў, тых, хто сустракае Прэм'ера) праводзіцца прыкладна такая думка: існуюць цудоўныя сілы ў Беларусі — сумленныя, патрыятычныя, якія робяць усё для таго, каб мець цяснейшыя эканамічныя і розныя іншыя сувязі з Расіяй. І існуюць дзве структуры, якія супрацьстаяць гэтаму. Адна — апазіцыя на чале з Пазьняком. Другая — я. Я нічога не магу сказаць пра першую пазіцыю — ні за, ні супраць. Мне здаецца, што гэта ацэнка таксама няправільная, але тут я ўстрымаюся. Што да мяне, я лічу, што гэта кампанія, накіраваная асабіста супраць мяне. Калі б гэта не датычылася інтарэсаў дзяржавы, я, можа, на гэта і не рэагаваў бы. Але робіцца чарговая ілюзія, спроба паказаць, што ёсць станоўчыя сілы, якім перашкаджаю я. Больш за тое, па інерцыі да гэтых сіл аднесены цяпер і Вярхоўны Савет".*

*(З прэс-канферэнцыі Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧА).*

*З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ*

## БНФ ЗНОЎ ПАДТРЫМАЕ ШУШКЕВІЧА

**У палітычных колах Беларусі наўрад ці хто сумняваецца, што на чарговай сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі дэпутацкая большасць зноў узніме пытанне аб недаверы кіраўніку парламента Станіславу Шушкевічу. Як у гэтых умовах павядзе сябе апазіцыя БНФ!**

**— Апазіцыйныя дэпутаты зноў падтрымаюць Старшыню Вярхоўнага Савета, — заявіў каардынатар апазіцыі, народны дэпутат рэспублікі Сяргей Навумчык. — Праўда, пасля апошняй сесіі Станіслаў Шушкевіч мог і павінен быў дзейнічаць больш актыўна на карысць дзяржаўнага суверэнітэту. Апошнія ж яго заявы сведчаць, што асабістая палітыка Шушкевіча набывае рысы вялікай і нясе на сабе пачуццё адказнасці як перад народам, так і перад дэмакратычнымі сіламі. Нягледзячы на тое, што пункты гледжання Шушкевіча і парламенцкай апазіцыі на шэраг праблем розняцца, па адной з іх назіраецца супадзенне поглядаў: абодва бакі імкнуцца захаваць Беларусь як незалежную і дэмакратычную дзяржаву.**

*ЭКАЛОГІЯ*

## ЗУБР ЗАХВАРЭЎ

**Колькасць зуброў у Беларусі за апошні час скарацілася з 315 да 295 асобін. Прычына зніжэння пагалоўя зуброў у пагаршэнні кармавой базы і высокай шчыльнасці капытных у Белавежскай пушчы, месцы пражывання гігантаў.**

**Каб прадухіліць распаўсюджанне хвароб, частка зуброў пераведзена на новыя "месцы жыхарства" — у лясгас Барысаўскага раёна і ў Прыпяцкі запаведнік. Плануецца таксама перасяліць частку пагалоўя ў Валожынскі раён, дзе хопіць корму для жывёл.**

*У БЕЛАРУСАЎ ЗАМЕЖЖА*

## ГІМНАЗІЯ Ў РЫЗЕ

**У Рызе адбылося ўрачыстае адкрыццё Беларускай нядзельнай гімназіі, у якім прынялі ўдзел прадстаўнікі беларускай дыяспары "Світанак" і прадпрымальнікі "Беларускага шляху". З Днём ведаў першых вучняў павіншаваў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Латвіі Валянцін Вялічка. Ён уручыў вучням беларускія падручнікі, якія былі перададзены ў Рыгу сектарам па нацыянальных пытаннях Савета Міністраў рэспублікі.**

*БЕЗ ПРЭТЭНЗІЙ*

## РАДЗІВІЛ У НЯСВІЖЫ

**У Нясвіжы, Міры і Мінску пабываў Антоній Радзівіл — прадстаўнік слаўнага ў Беларусі магнацкага роду. Адбыліся яго карысныя гутаркі са старшынёй Нясвіжскага райвыканкома, дэпутатам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Уладзімірам Дражным, намеснікам міністра культуры Уладзімірам Гілепам, прэзідэнтам Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў Адамам Мальдзісам, у час якіх абмяркоўваліся перспектывы ўзнаўлення Нясвіжскага замка, стварэння там музейна-асветніцкага комплексу, развіцця Нясвіжа як турысцкага цэнтра.**

**Антоній Радзівіл у якасці прадстаўніка вядомай фірмы "Шэл Кэмікл" падкрэсліў, што ён і яго сям'я прыехалі ў Беларусь не дзеля таго, каб прэтэндаваць на нейкую спадчыну, а каб садзейнічаць ператварэнню Нясвіжа ў буйны міжнародны культурны цэнтр.**

*ЗЛАЧЫНСТВЫ*

## ЗАБІТЫ Д. АРЦЫМЕНЯ

**20 верасня 1993 года ў 21 гадзіну 10 мінут у горадзе Гродна пры выхадзе са свайго дома на вуліцы Астроўскага, 2, невядомым злачынцам з пісталета забіты народны дэпутат Рэспублікі Беларусь, старшыня Гродзенскага абласнога Савета народных дэпутатаў Дзмітрый Арцыменя. У той вечар Дзмітрый Канстанцінавіч збіраўся ехаць на дачу на сваёй аўтамашыне, і злачынцы сустрэлі яго ля брамкі ўласнага дома. Быў зроблены выстрал у грудзі з пісталета, як мяркуюць, замежнай вытворчасці. Затым злачынцы зніклі на дзвюх аўтамашынах маркі "Жыгулі" і аўтамашыне "БМВ".**

**Узбуджана крымінальная справа, вядзецца следства. У Гродна адразу ж выехалі Генеральны пракурор Рэспублікі Беларусь Васіль Шаладонаў і намеснік міністра ўнутраных спраў Мікалай Серада.**

*ХТО ШТО МАЕ*

## МІЛЬЯРДЫ Ў СКАРБОНКАХ

**У насельніцтва Беларусі на сённяшні дзень накоплена 507 мільярдаў рублёў.**

**На рахунках прадпрыемстваў і насельніцтва знаходзіцца таксама каля 280 мільёнаў долараў ЗША. Па звестках Нацыянальнага банка рэспублікі, даходы насельніцтва перавышаюць рост цэн, што садзейнічае павелічэнню інфляцыі. Аднак зразумела, што ў гэтым выпадку размова ідзе аб даходах меншасці грамадзян рэспублікі.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

НЯМЕЦКАЯ фірма "Umarex" адкрыла ў Мінску магазін, дзе будзе прадавацца спартыўная, паляўнічая і газавая зброя. Гэта першы крок да свабоднага продажу зброі і права валодаць ёю.

КАМПАНІЯ "Браўн Форман" правяла прэзентацыю вядомага кентукскага віскі "L энд G". Яно будзе экспартавацца ў Беларусь і хутка паступіць у продаж.

НАСЕЛЬНІЦТВА Беларусі старэе. Сёння 11—12 працэнтаў яе жыхароў — гэта людзі, якім больш за 65 год. 200 тысяч пенсіянераў — адзінокія людзі, трэць з іх патрабуюць пастаяннага догляду.

ЗНЕШНІ доўг Беларусі па стану на верасень гэтага года складае 880 мільёнаў долараў ЗША. 412 мільёнаў з гэтай сумы рэспубліка вінна краінам СНД, а 468 мільёнаў пазычана ў іншых дзяржаў.

ФІРМА "Белатракцыён" адкрывае казіно ў Віцебску, Магілёве, Гродне і Оршы. У сетку яе прадпрыемстваў сёння ўваходзяць больш 20 аб"ектаў. І 20[illegible] гульневых аўтаматаў для дзяцей у 52 гарадах Беларусі, 26 гульневых залаў і некалькі казіно ў Мінску, Гомелі і Брэсце.

СТАГОДДЗЕ з дня нараджэння Казіміра Сваяка і Янкі Быліны — паэтаў-ксяндзоў, якія жылі на Астравеччыне, было адзначана на іх радзіме набажэнствам. Яго адправіў ксёндз Міхал з Мінска. У свяце прынялі ўдзел мясцовы калгас у Спондах, Астравецкі раённы аддзел культуры, Міжнародны камітэт беларусістаў і прадстаўнікі Беларускай каталіцкай грамады са сталіцы.

ТЫЯ, хто яшчэ не вельмі можа размаўляць па-беларуску, магчыма, звярнулі ўвагу на першы том "Руска-беларускага слоўніка", выпушчанага выдавецтвам "Беларуская энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі. У хуткім часе пабачаць свет яшчэ два тамы, падрыхтаваныя да друку Інстытутам мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук Беларусі.

11 ПРАДПРЫЕМСТВАЎ з 285 падсправаздачных Дзяржкамітэту па прамысловасці з'яўляюцца стратнымі ці нерэнтабельнымі. Рыхтуецца ўдакладнены спіс такіх прадпрыемстваў. Ім урад рэспублікі адмовіць у дзяржаўнай дапамозе.

У ПРЫВАТНАЙ уласнасці грамадзян рэспублікі знаходзіцца каля 2 мільёнаў гектараў, або 10 працэнтаў усіх ворыўных зямель. Цана 1 гектара вагаецца ад 3 800 да 5 780 рублёў.

*БУЛЬБУ КАПАЮЦЬ...*





**Нягледзячы на тое, што мы ўжо каторы год аром і сеем пад сцягам дэмакратыі, на калгасным двары праблемы засталіся старыя — сацыялістычныя: няма каму рабіць. Улічваючы гэткую сітуацыю, на ўрадавым узроўні было вырашана: з 2 верасня на цэлы месяц кінуць на "бітву за ўраджай другога хлеба" студэнтаў і школьнікаў.**

**І зноў, як у "застойныя" гады, "штурмуюць" барозны хлопцы і дзяўчаты, пакідаючы ладны працэнт бульбы ў зямлі. Але ўсё ж збольшага ўраджай будзе сабраны. Вось і ў калгасе "Бальшавік", у Вілейскім раёне, галоўная рабочая сіла на ўборцы бульбы — школьнікі.**

**Агулам беручы, калгасам рэспублікі "на бульбе" дапамагаюць 87 тысяч чалавек "са стараны", з іх 70 тысяч — студэнты. Ураджайнасць бульбы сёлета — больш за 160 цэнтнераў з гектара.**

**НА ЗДЫМКАХ: школьнікі капаюць калгасную бульбу; вучаніцы 10 класа вілейскай сярэдняй школы N 1 Алена ЗАНКОВІЧ і Алена АПЯЦЁНАК.**

# НАВУЧЫЦЦА ЛІЧЫЦЬ І БЕРАГЧЫ

[Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.].

— Аднак на тое, каб гэту добрую справу пачаць і ажыццявіць, патрэбны вялікія выдаткі. Яны ёсць?

— Так, патрэбны. Арганізацыя работ па энергазберажэнню патрабуе свайго фінансавання. І камітэт унёс прапановы, урад іх разглядае, каб частку грошай павярнуць і выкарыстаць на фінансаванне работ па энергазберажэнню. Сёння ж укладанне грошай у энергазберажэнні ў 2 разы больш эфектыўнае, чым у прамое развіццё энергетыкі. Усё трэба разумна развіваць. Але сёння трэба ўкласці грошы і ў тыя напрамкі і тыя канкрэтныя справы, якія даюць аддачу большую, чым увод магутнасцей на электрастанцыях. Напрыклад, калі мы ўкладзём грошы ў прыборы ўліку электраэнергіі, у краны на кожнай батарэі (зразумела, што іх трэба мець, зманціраваць у кожным доме, кватэры), гэта ўкладанне прывядзе да таго, што мы працэнтаў на 15 будзем менш выкарыстоўваць цеплавой энергіі, і акупнасць будзе вышэйшай, чым пры ўкладанні ў развіццё цеплакрыніц, прыкладна ў 2 разы. Калі мы ўкладзём грошы ў новыя свяцільнікі, больш эканамічныя (праўда, іх кошт будзе вышэйшым за звычайныя лямпы напальвання), іх выкарыстанне за кошт таго, што адна лямпа ў 5 разоў больш дае святла пры той жа магутнасці і служыць у 5 разоў даўжэй, не так хутка перагарае, у рэшце рэшт яна акупіцца гады праз 3. Але пры гэтым першапачатковыя ўкладанні таксама павінны быць вялікія, таму што трэба ствараць новыя вытворчасці, укладваць грошы ў далейшае развіццё прыборнага ўліку, у новыя тыпы свяцільнікаў. Для гэтага запатрабуюцца і час, і грошы, таму што калі мы ўкладзём сродкі ў гэты напрамак і будзем эканоміць паліва, нам жа не трэба яго купляць і не трэба спальваць яго ў нейкіх кацельнях і станцыях, а значыць — не трэба расшыраць гэтыя кацельні і станцыі. І ў канчатковым выніку экалогія выйграе ад таго, што мы не спальваем і не выкідваем адходы гэтай вытворчасці: вокіслы азоту, вокіслы серы. Вось трайны выйгрыш!

— Пры нашай з вамі памяці быў папулярны лозунг: "Эканоміка павінна быць эканомнай". Аднак жа эканомнымі мы не сталі.

— Разумееце, лозунг тады добры, калі падмацоўваецца практычнымі дзеяннямі, а да гэтых практычных дзеянняў падштурхоўвае сітуацыя. У тых умовах, калі быў абвешчаны гэты лозунг, электраэнергія ў цэлым каштавала 2 капейкі за 1 кілават/гадзіну. Цяпер электраэнергія каштуе 11 рублёў за 1 кілават/гадзіну. У тых умовах, калі каштавала 2 капейкі, праекціроўшчыкі Мінска-Вілейскай воднай сістэмы, закладваючы каскад помпавых станцый, што падымаюць ваду, і выкарыстоўваючы для гэтага 18 мегават электраэнергіі, не прадугледжвалі адначасовае будаўніцтва малых станцый для таго, каб 15—20 працэнтаў энергіі, затрачанай на пад"ём праз гідраэлектрастанцыі, вярнуць у сістэму. Чаму? Ды таму, што электраэнергія каштавала тады капейкі, а сёння, калі яна каштуе рублі, — гэта апраўдана, гэта неабходна рабіць. І таму цяпер ужо ёсць комплексная праграма аднаўлення малых ГЭС і будаўніцтва новых там, дзе гэта карысна. Распрацоўвае гэтую праграму больш канкрэтна Мінска-Вілейская водная сістэма. Я думаю, што ў бліжэйшы час на Ганалесе запрацуе такая ГЭС.

А для таго каб саму праграму рэалізаваць, неабходна і ў нас у рэспубліцы развіваць вытворчасць невялікіх турбін, генератараў, таму што мы не хочам затапляць вадой новыя тэрыторыі, а выкарыстаць існуючыя ўжо падтопленыя землі і каскады, а там узроўні магчымай вытворчасці электраэнергіі невысокія. Патрабуюцца невялікія агрэгаты па 50—100 кілават, невялікія турбіны. Ёсць дамоўленасць з заводамі Бабруйска, каб выпускаць такія турбіны, і першыя ўжо выкарыстоўваюцца. Бяруцца выпускаць электрагенератары невялікай магутнасці ў Магілёве і за межамі Беларусі, у краінах СНД.

— Раскажыце, калі ласка, пра ваш камітэт. Колькі часу ён існуе. І на што скіраваны яго першыя намаганні?

— Камітэт толькі ствараецца. Асноўныя задачы яго — стварыць эканамічныя і прававыя ўмовы для зацікаўленасці ў энергазберажэнні прадпрыемстваў, арганізацый і асобных грамадзян. Ажыццяўленне дзяржаўнага рэгулявання па энергазберажэнню будзе праходзіць на падставе і эканамічнага механізма, і адміністрацыйных мер. Гэта таксама наша задача —распрацаваць эканамічны механізм і ўдасканаліць адміністрацыйныя меры. Мы павінны так пабудаваць работу сваю і іншых арганізацый, каб пытанні энергазберажэння лічыліся прыярытэтнымі ў кожнай галіне і на прадпрыемстве. Важны напрамак — стандартызацыя ў энергазберажэнні. У стандарт, у ГОСТ будуць уводзіцца паказчыкі энергаэфектыўнасці кожнага вырабу, абсталявання, якое будзе выпускацца ў рэспубліцы і што ўжо выпускаецца. Калі забяспечваецца неабходны ўзровень энергаэфектыўнасці, гэтаму вырабу будзе давацца зялёная вуліца. Калі спажывае шмат рэсурсаў, яго, мусіць, будзе нерацыянальна выпрабляць у нашай рэспубліцы.

Неабходна будзе перагледзець і стварыць разумную структуру нашай народнай гаспадаркі, каб энергаёмкія галіны не атрымлівалі прыярытэтнага развіцця, а тыя, што патрабуюць невялікіх рэсурсаў, атрымлівалі. Кожны праект будзе праглядвацца, будзе праводзіцца экспертыза на энергетычную мэтазгоднасць данага вырабу ці праекта і будзе забяспечвацца з боку нашага камітэта дзяржаўны кантроль за правільнасцю і разумным выкарыстаннем энергарэсурсаў. Вось колькі задач у камітэта.

— Леў Антонавіч, якія асноўныя фактары садзейнічалі стварэнню Камітэта па энергазберажэнню і энергетычнаму нагляду? Якія асноўныя функцыі і задачы выконвае ваша ведамства?

— Я б хацеў адзначыць тры асноўныя фактары, якія садзейнічалі стварэнню камітэта. Першы — становішча спраў з энергарэсурсамі ў рэспубліцы, ускладненне ў атрыманні паставак нафты і газу. Гэта праблема нумар адзін. Праблема нумар два — гэта цэлы шэраг пытанняў, звязаных з энергазберажэннямі. Зразумела, што як бы добра галіна ні займалася энергазберажэннем, узнікае шмат пытанняў (прыборы ўліку, нарміраванне, адказнасць за нерацыянальнае выкарыстанне), якія павінна рашаць не галіна, а рэспубліка, дзяржава. Неабходны дзяржаўны ўзровень кіравання.

І трэці аспект. Міжнародная практыка такая: калі складана, калі ёсць праблемы, ствараецца орган дзяржаўнага рэгулявання, так робіцца ў большасці краін.

Вось гэтыя тры аспекты садзейнічалі стварэнню камітэта. Неабходнасць такога роду работы даўно бачыў урад рэспублікі і даўно займаліся гэтымі пытаннямі. Структура ў складзе Міністэрства энергетыкі (раней гэта называлася Беларусьэнерга) была створана ў 1990 годзе, г.зн. амаль тры гады назад. На працягу гэтага часу мы, знаходзячыся ў структуры Мінэнерга (група работнікаў невялікая, там было толькі 4 чалавекі), займаліся распрацоўкай пытанняў агульнадзяржаўнага ўзроўню. За гэты час ужо былі зроблены першыя крокі ў рэспубліцы: выпушчаны шэраг пастаноў урада, накіраваных на эканомнае расходаванне энергарэсурсаў, паліва, электраэнергіі і цеплавой энергіі, прадугледжвалася маёмасная адказнасць прадпрыемстваў, якія нерацыянальна выкарыстоўваюць гэтыя энергарэсурсы.

Упор быў зроблены на распрацоўку прыбораў уліку цеплавой энергіі і іншых рэсурсаў, якіх у нас практычна не было. Цяпер па шэрагу напрамкаў ёсць ужо пэўныя дасягненні. Напрыклад, у рэспубліцы паспяхова развіваецца свая галіна — прыборабудаванне. Мы ўжо самі на нашых заводах выпускаем больш дзесяці беларускіх прыбораў, якія прызначаны для ўліку энергарэсурсаў, цеплавой энергіі, датчыкі расходу і лічыльнікі тэрмасупрацiўлення. Электралічыльнікі выпускаем у Брэсце.

Мы цяпер займаемся пытаннямі распрацоўкі беларускіх прыбораў уліку спажывання халоднай і гарачай вады і газу. К канцу года нашы заводы гэтыя прыборы будуць выпускаць серыйна.

— За мяжой такія прыборы даўно вядуць сістэматычны ўлік расходу энергарэсурсаў. І калі ў нас нарэшце яны будуць у кожнай кватэры, то мы станем ці не больш эканомнымі, чым немцы?

— Усе дамы, якія ўвойдуць у строй у канцы года, будуць з гэтымі прыборамі. Бясспрэчна, вопыт паказвае, што пры такім выкарыстанні прыбораў змяншаецца расход вады на 30—60 працэнтаў. Але гэта будзе залежаць яшчэ і ад тарыфа. Адпаведныя структуры, якія займаюцца пытаннямі цэн, разглядаюць пытанні кошту вады гарачай і халоднай. Мы плануем укараняць адначасова прыборы халоднай і гарачай вады.

— І ўлік газу таксама будзе?

— Так, будзе весціся ўлік газу ў дамах. І аплата будзе не на аднаго чалавека, як цяпер прынята, а па колькасці выкарыстанага газу.

Так, праблем, пытанняў і задач у Камітэта па энергазберажэнню і энергетычнаму нагляду Беларусі непачаты край. Вельмі хочацца спадзявацца, што ў гэтай новай недзяржаўнай структуры сапраўды з"явіцца шмат прыхільнікаў і памочнікаў, зацікаўленых і неабыякавых да праблемы энергазберажэнняў, якая з"яўляецца сёння вельмі важнай, першачарговай.

Можа, нарэшце камітэт навучыць кожнага з нас і на вытворчасці, і дома быць беражлівым і эканомным. Без усялякіх новых лозунгаў.

**Галіна АГАЛАКАВА.**

# ЁСЦЬ У КОЖНАЙ СУСТРЭЧЫ СМУТКУ ІМГНЕННЕ...



Не спадзяваўся Ота Ханхайдэ, што калі-небудзь яшчэ сустрэнецца са сваім выратавальнікам — Алегам Шышкіным, які стаў для бязвусага нямецкага палоннага сапраўдным сябрам. Амаль шэсць гадоў знаходзіўся ў палоне ў Валгаградзе Ота. І не раз за гэтыя гады яго падтрымлівала сціплая сям'я Шышкіных. Хаця "дружба" з ворагамі праследавалася законам, гэтыя людзі не пабаяліся прымаць у сябе ў доме маладога немца, пастаянна падкормлівалі яго і адагравалі.

Час сцірае горыч, крыўду, непрыязнасць. Змяніліся і нашы погляды на ворага. Ды і цяжка было ўбачыць ворага ў танкашыім хлапчуку, які ледзь трымаўся на нагах ад недаядання і хваробы. Менавіта такім і паўстаў перад Шышкіным Ота, калі аднойчы пад вечар пастукаў да іх у дзверы. Ён зусім не разлічваў, што ў гэтым доме яго абагрэюць і накормяць. Але сэрца гаспадыні памякчэла, калі яна даведалася, што ў юнага немца дзень нараджэння. Яна адразу адправіла абодвух падлеткаў — сына Алега і палоннага — па хлеб і папяросы, а потым, накарміўшы галоднага нямецкага хлопца, сабрала яму і клуначак з ядой у дарогу. З таго часу ў Ота з'явіўся другі дом...

Вярнуўшыся пасля палону ў свой Ферсмальд, Ханхайдэ ўзначаліў Таварыства вярнуўшыхся на Радзіму. Ён пастаянна помніў пра простую рускую сям'ю Шышкіных, але пісаць ім не адважваўся. Ведаў, што пісьмы ўсё роўна не дойдуць. За 44 гады Ота атрымаў толькі адно пісьмо ад Алега, якое падарожнічала паўгода, перш чым знайшло адрасата. Пасланні Шышкіных таксама чамусьці "губляліся" ў дарозе...

А ў мінулым годзе ў Ферсмальдзе, дзе ў кандытарскай фірме "Штоок" працаваў Ота, пабывала на аздараўленні група беларускіх дзяцей. Даведаўшыся аб маленькіх гасцях, Ханхайдэ за дзень сабраў у сваім таварыстве тысячу нямецкіх марак, накупіў дзецям падарункаў і наладзіў сапраўднае свята. Вось тады ён і пазнаёміўся з беларускай перакладчыцай Аленай Навіцкай. І папрасіў адшукаць Шышкіных.

Апошні раз Ота Ханхайдэ бачыў свайго сябра ва ўласны дзень нараджэння — 13 мая 1949 года. А сустрэліся яны ў апошні дзень лета ў 93-м. Ота стаяў на пероне сталічнага вакзала ў Мінску з шыльдай "Алег". Міма праплывалі вагоны прыбываючага цягніка. Пажылы немец ужо не мог стрымаць слёз. Праз 44 гады сустрэліся Ота Ханхайдэ і Алег Шышкін з Валгаграда. Яны рассталіся маладымі людзьмі, а сустрэліся сівавалосымі.

Час сцірае многае. А нам застаецца памяць. Добра, калі добрая...

P.S. Ведаючы, што беларускім дзецям, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС, патрэбна дапамога, Ота Ханхайдэ і прыехаўшыя з ім сябры вырашылі пералічыць фонду "Дзеці Чарнобыля" 600 дойч-марак, такая ж сума будзе перададзена Савету ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны рэспублікі.

**Наталля НЕВІДОМАЯ.**

**НА ЗДЫМКУ: Ота ХАНХАЙДЭ на пероне Мінскага вакзала сустрэўся з Алегам ШЫШКІНЫМ.** **Фота Я.КАЗЮЛІ.**

# БЯСКОНЦАЯ ДАРОГА ДА ХРАМА

[Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.].

Дарэчы, гарадскія ўлады з першых дзён гэтага канфлікту — за тое, каб вярнуць касцёл вернікам. Старшыня Вярхоўнага Савета С.Шушкевіч таксама неаднаразова па радыё ў прамым эфіры абяцаў вырашыць станоўча гэтую праблему. Аднак... Пакуль рашэнне прынята не самае мудрае. Будынак закрылі, спасылаючыся на аварыйны стан. Але толькі замок на душу, якая цягнецца да Бога, павесіць немагчыма. Веруючыя сталі маліцца на вуліцы перад храмам. Штодзённа ў 9 і ў 18 гадзін, нягледзячы на восеньскую слоту, праводзіць набажэнствы ксёндз Уладзіслаў Завальнюк.

Міма грукочуць тралейбусы і аўтобусы. Спяшаюцца прахожыя. Нехта з іх здзіўлены, нехта з жалем глядзіць на людзей, што стаяць на каленях перад храмам, на якім святыя іконы чаргуюцца з надпісамі "Тоэквандо". Многія ж не могуць схаваць свайго абурэння.

— Такога кашчунства, такога здзеку над божымі храмамі не ведала ні адна краіна свету, — гаворыць місіянер з Італіі, графіня Эмілія Кінскі. — Вось таму ваш народ расплачваецца за дзеянні прыслужнікаў д'ябла, за іх сатанінскую ідэалогію.

А ў высокіх кабінетах улады раздаецца: "Няўжо католікам мала Чырвонага касцёла?!"

Сумна, што гэтае наіўнае па неразуменню пытанне задаюць людзі, якія па свайму становішчу, нарэшце, абавязку павінны клапаціцца аб адраджэнні духоўнасці народа. (Дарэчы, Чырвоны касцёл з вялікімі цяжкасцямі рэстаўруецца, а калі адкрые свае вароты перад прыхаджанамі — Бог ведае).

Дазволю невялікае адступленне. У 20-я гады чэкісты-ленінцы дапытваліся ў Война-Ясянецкага, доктара медыцыны, вучонага з сусветным імем, які надзеў расу, калі іншыя яе здымалі:

— Як! Вы верыце ў Бога — поп і прафесар?.. Хіба вы бачылі свайго Бога?

— ...Я многа аперыраваў на мозгу і, адкрываючы чарапную каробку, ніколі не бачыў там таксама і розуму, — адказаў ён.

За гады д'ябальшчыны, што тварылася ў нашай айчыне, у людзей аднята і вера, і здаровы розум. У многіх загублена душа. І каб вылечыць яе, патрэбны сёння не адзін і не два Божыя храмы, няхай будзе то царква, касцёл, мячэць...

Да ўсведамлення гэтай ісціны рана ці позна прыйдзе большасць нашых суайчыннікаў, нават тых, хто сёння не разумее непахіснага жадання прыхаджан вярнуць сваю святыню. Хочацца, вядома, каб для гэтага спатрэбілася не 70 гадоў...

**Галіна КАЛЕВІЧ.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

# НА АПОШНІМ ГОДЗЕ ЖЫЦЦЯ

## МЕМУАРЫ Паўліны МЯДЗЁЛКІ

Высвятляецца, някепскую адну справу рабіў яшчэ нядаўна сумнавядомы апалагет "абэцэдаршчыны" Адам Іосіфавіч Залескі. Ад пачатку 1970-х гадоў да выхаду на пенсію (1982 год) прафесар узначальваў сектар збору і публікацыі дакументаў, гістарычных матэрыялаў у Інстытуце гісторыі АН Беларусі. У ліку падрыхтаваных і выдадзеных з дапамогаю сектара зборнікаў — "Люди Нарочанского края: воспоминания участников революционной борьбы и Великой Отечественной войны" (Мн., 1975), сярод матэрыялаў якога змешчаны невялікія ўспаміны П.Мядзёлкі "Павлинка" в моей жизни".

Аднак, рыхтуючы папярэднюю публікацыю, прымеркаваную да 100-й гадавіны з дня нараджэння Паўліны Вінцэнтаўны, я, да сораму, яшчэ нічога не ведаў ні пра "нарачанскі" зборнік, ні пра Мядзёлкавыя мемуары. Упершыню згадка пра іх трапілася мне ў Фундаментальнай картатэцы нашага Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АНБ. У адпаведным томе даведніка "Беларускія пісьменнікі" (ужо выйшлі т. 1—2) сярод бібліяграфіі пра П.Мядзёлку будзе пазначана: успаміны захоўваюцца ў архіве Інстытута гісторыі АНБ, ф. 21, спр. 8, арк. 1-5. Аднак такая архіўная сігнатура ўжо недакладная.

Не буду падрабязна спыняцца на пошуках папкі з прозвішчам Мядзёлка П.В. пад новай сігнатурай: ф.8, воп. 4, адзн. зах. 5. Бо і гэты шыфр неактуальны цяпер. Як патлумачыла мне старшы навуковы супрацоўнік Галіна Кнацько, не існуе афіцыйна самога архіва. Пасля расфарміравання (гадоў 10 таму) сектара збору і публікацыі архіў часткова распыліўся, часткова перайшоў у валоданне аддзелу ваеннай гісторыі Беларусі савецкага перыяду (сёння яго ўзначальвае вядомы навуковец Аляксей Літвін) у якасці дапаможнага матэрыялу, напрацовак. У тым, што ён захаваўся, — добрая воля саміх супрацоўнікаў.

Сапраўды, рабіць навуковую спасылку на афіцыйна не існуючую ўстанову, структуру без раскладу працы, пячаткі і г.д., — фікцыя.

Тым не менш, казённая папка-"скоросшиватель" з прозвішчам "Мядзёлка П.В." існуе. А ў ёй, згодна з праведзенай у маёй прысутнасці пагінацыяй — 35 старонак. Не ўлічваючы арк. 1а — Анкеты "участника Великой Отечественной войны". На маё запытанне, навошта Мядзёлцы, якая не лічыцца ўдзельнікам вайны, паслалі гэтую анкету, Г.Кнацько коратка патлумачыла: "Проста ў інстытуце не існавала іншай". А рассылаліся анкеты аўтарам мемуараў для вышэйназванага зборніка ўспамінаў пра Нарачанскі край. (У кнізе ўспаміны Мядзёлкі пададзены ў даваенным раздзеле "В борьбе за счастье народное" поруч з успамінамі пра Заходнюю Беларусь Максіма Танка, Генадзія Цітовіча).

У анкеце дрогкай рукою 80-гадовай Паўліны Вінцэнтаўны занатавана:

1. Фамилия, имя и отчество — **Мядзёлко Павлина Викентьевна.**
2. Год, число и месяц рождения — **1893 г. 12 сентября (1893 г).**
3. Место рождения — **м-ко Будслав, ныне Минской обл. Мядельского р-на.**
4. Национальность — **белорусска.**
5. Когда принят кандидатом в члены КПСС
6. Когда вступил в члены КПСС
7. Когла вступил в члены ВЛКСМ — **беспартийная.**
8. Образование — **высшее.**
9. Занимаемые должности накануне Великой Отечественной войны и в годы войны — **с 1932 по 1947 г. преподавательница языка и литературы в средних школах гор. Москвы.**
10. В каких боевых операциях участвовал — **не участвовала.**
11. Правительственные награды — **медаль "За доблестный труд в годы Великой Отечественной войны", Почетная грамота Верх. Совета о присвоении звания Засл. деятеля культуры Белоруссии.**
12. Написано ли вами воспоминание об участии в событиях Великой Отечественной войны; в каком печатном издании (газете, журнале) опубликовано или в каком хранится архиве — **нет.**

Апошні, 13-ты пункт анкеты "Как по Вашему мнению следовало бы улучшить организацию записи воспоминаний ветеранов войны", застаўся чыстым.

Не ведаю, калі і хто з сектара збору і публікацыі дакументаў Інстытута гісторыі АНБ звярнуўся да Мядзёлкі па ўспаміны, але, запаўняючы 14 чэрвеня 1973 года аднатыпную анкету (аддрукаваную, дарэчы, у 1971 годзе накладам 2 000 экз.), Паўліна Вінцэнтаўна ўжо, відаць, мела перапісанымі гэтыя 14 аркушаў успамінаў "Купалаўская "Паўлінка" ў маім жыцці". (Паметка ў левым верхнім куце засцерагала: "Загаловак умоўны").

У аснове сваёй "нарачанскія" мемуары — сціслы канспект-пераказ "Сцежак жыцця", ужо гадоў 7 перад тым здадзеных у адно з менскіх выдавецтваў. Аднак пачатак рукапісу ("Само прозвішча маё паказвае, што род Мядзёлкаў паходзіць з Мядзельшчыны") яскрава вымалёўвае зададдзеную аўтарцы супрацоўнікамі Інстытута гісторыі "нарачанскую" скіраванасць. Уступам яна не абмяжоўваецца. Тэма "малой радзімы" гучыць на апошніх старонках прапанаваных да друку мемуараў, калі Паўліна Вінцэнтаўна падрабязна апавядае пра жыццё ў родным Будславе, куды яна вярнулася ў 1947 годзе.

Гэтая частка пераклікаецца з адпаведнымі мясцінамі ў нядаўняй "палымянскай" публікацыі ўспамінаў.

Ды хоць большасць разлінееных у клетку аркушаў-старонак, вырваных са звычайных школьных сшыткаў па арыфметыцы, спісаны рукою Паўліны Вінцэнтаўны без аніводнай чарнавой праўкі, успаміны для Інстытута гісторыі перапісваліся не механічна. Памяць кожны раз асвечвалі новыя дэталі, імёны. Вось усяго два прыклады дапаўненняў з "акадэмічнага" тэксту. Апавядаючы пра калектыў Першага Таварыства беларускай драмы і камедыі, мемуарыстка пашырае пералік імёнаў: "Апрача іх — **Галубок, Фальскі**, Грыгоніс..." Або: "Афармляць сцэну дапамагалі нам хлапчукі бадай з усёй Старажоўкі, сярод іх і будучы паэт Андрэй Александровіч, і **будучыя акторы тэатра як Платонаў і інш.**" (параўнайце "Сцежкамі жыцця", адпаведна с.113 і 115).

Даследчыкам беларускай культуры яшчэ належыць спраўдзіць, наколькі "ўдакладненні" 80-гадовай аўтаркі адпавядаюць рэальным фактам, але і цяпер зразумела: рукапіс, што захаваўся да нашых дзён у Інстытуце гісторыі АНБ, — асобная тэксталагічная крыніца, якую ніяк не абмінуць выдаўцы будучых аднатомнікаў твораў Паўліны Мядзёлкі.

Мушу адзначыць яшчэ і наступнае. Збіраючы матэрыял для гэтага ўступнага слова, даведаўся, што не аднаму Максіму Танку пакінула працяг сваіх дзённікаў Паўліна Мядзёлка. Прынамсі, існуе яшчэ адзін рукапісны экземпляр "Беглых нататак для памяці". Тэкст яго не ва ўсім супадае з апублікаваным сёлета ў NN 2—5 "Полымя". Новы клопат літаратуразнаўцам-тэкстолагам.

Аналізуючы ж розначытанні ў "акадэмічных" і апублікаваных кніжкаю ўспамінах "Сцежкамі жыцця", сам я схіліўся да меркавання, што "новыя" імёны-дэталі маглі прысутнічаць у кніжным варыянце і зніклі адтуль праз рэдактарска-цэнзурную пільнасць. А раптам захаваўся той даўні выдавецкі машынапіс у Арсеня Ліса, пад рэдакцыяй якога "Сцежкі жыцця" пабачылі свет у 1974 годзе?

— Так, валяўся ў мяне нейкі 3-ці, падслепаваты экземпляр машынапісу, ды, пераязджаючы на новую кватэру, я здаў яго ў 1970-х гадах у Аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў нашай акадэмічнай бібліятэкі. Пацікаўся.

Жаданага "падслепаватага" машынапісу мне ў бібліятэцы не знайшлі. Тым большую каштоўнасць як аўтарская першакрыніца ўяўляюць сабою мемуары П.Мядзёлкі "Купалаўская "Паўлінка" ў маім жыцці", перададзеныя аўтаркаю ў Інстытут гісторыі на апошнім годзе свайго жыцця.

**Язэп ЯНУШКЕВІЧ.**

**Паўліна МЯДЗЁЛКА**

# КУПАЛАЎСКАЯ "ПАЎЛІНКА" Ў МАІМ ЖЫЦЦІ

САМО ПРОЗВІШЧА маё паказвае, што род Мядзёлкаў паходзіць з Мядзельшчыны. Нездарма мой дзед казаў, што не ў капусце мяне мама знайшла, як яна казала, а русалка выкінула мяне маленькую з возера Мядзела на бераг, а мама праходзіла там і ўзяла сабе за дачушку. Дзед і называў мяне "Русалачкай". Пазней дзядзька мой расказваў, што памешчык Аскерка выйграў у карты ў нейкага мядзельскага памешчыка майго прадзеда прыгоннага Тамаша Мадзёлку і забраў яго ў свой маёнтак у Будслаў. Пасля скасавання прыгону прадзед атрымаў у мястэчку надзел у 15 сотак, сяк-так пабудаваўся, а дзед Зыгмусь з юнацтва вандраваў па бел-свету на пабудовах чыгунак, пазней вярнуўся ў сваю хату і заняўся шавецтвам. Старшага свайго сына — майго бацьку Вінцуся выкіраваў на арганістага, а з 1915 года бацька працаваў рабочым на Пушачным заводзе ў Царыцыне.

У 1898 годзе мае бацькі і са мной, пяцігадовай дзяўчынкай, пераехалі ў Глыбокае. Там я скончыла царкоўнапрыходскую школу. Змалку я не здатна была ні да хатняй гаспадаркі, ні да чыста жаночай ручной працы. Мяне вабілі кнігі і толькі кнігі. Праз іх шмат згрызот было, шмат слёз праліла і мама, і я. Хацелася вучыцца, а не было дзе і як. Мне было 12 гадоў, калі ў нашай хаце стварылася нелегальная школа: да нас прыходзілі 10 дзяўчынак і хлапчукоў, якіх я навучала першапачатковай граматыцы. Плацілі мне па рублю ў месяц, а да двух багацейшых хлапчукоў я хадзіла на дом іх вучыць, і там плацілі мне 3 рублі ў месяц. Такім чынам я зарабляла ўдвая больш, чымся бацька. Свой заробак я клала на кніжку ў касу ашчаднасці на той выпадак, каб на свае грошы паехаць куды вучыцца. Часткай саматугам, а часткай пры добраахвотнай дапамозе студэнтаў я падрыхтавалася і здала экзамены ў 6-ты клас гімназіі ў Вільні. Перабіваючыся на пражыццё рэпетытарствам малодшых школьнікаў, я скончыла гімназію ў 1912 годзе і восенню паступіла на вышэйшыя курсы ў Пецярбурзе.

У 1905—1906 годзе ў Глыбокім часта знаходзілі ў клумбе сярод кветак або падкінутыя ў сені скруткі рэвалюцыйных лістовак, брашур. А то і бацькаў сябра прысылаў з Адэсы пасылачкі, у якіх таксама знаходзілі рэвалюцыйную літаратуру. Я чытала лістоўкі ўсім, хто прыходзіў у нашу хату, а то ціхачом запіхвала ў кішэню зімовай чуйкі якомусь селяніну.

Ніколі не забудуся, якое моцнае ўражанне зрабілі на мяне першыя два нумары "Нашай долі", знойдзеныя ў адным з такіх падкінутых скруткаў. Жартачкі, гэта ж па-нашаму напісана, на нашай простай мове! Тады яшчэ я не ведала, што наша "простая мова" называецца беларускай. А неўзабаве пасля гэтага нам падкінулі "Дудку беларускую" Мацея Бурачка. З яе то я і даведалася, што мы беларусы і што наша "простая" мова называецца беларускай мовай, што яна "ёсць такая ж людская і панская, як і французская або нямецкая, або і іншая якая..." (з прадмовы да "Дудкі беларускай"). У гэты час лічылася, калі цябе хрысцілі ў касцёле, то ты паляк, а калі ў царкве — дык рускі. (На жаль, і да сённяшняга дня знаходзяцца людзі, якія блытаюць паняцці рэлігійнай і нацыянальнай прыналежнасці). Францішак Багушэвіч адкрыў мне вочы і вызначыў далейшы шлях майго жыцця ў змаганні за родную мову, за шчасце майго народа, за яго права "людзьмі звацца".

Пасля "Нашай долі" ў наш дом ужо легальна стала прыходзіць "Наша ніва". І я не толькі вершы Янкі Купалы і Якуба Коласа, але і артыкулы, што змяшчаліся на старонках "Нашай нівы", на памяць ведала і чытала ўсім, хто заходзіў у нашу хату. Так я пазнаёмілася з першымі творамі Янкі Купалы. А ў 1909 годзе ў доме адных знаёмых у Вільні я сустрэлася і з самім Купалам і, трэба прызнацца, пачула нейкае расчараванне. Да гэтага спаткання я ўяўляла сабе паэта, які так глыбока кранае душу і сэрца, нейкім богам, ці прарокам, у кожным разе сталым, паважным чалавекам, а тут — на табе! — пабачыла маладога хлопца з вусікамі, востра закручанымі ўгору, хлопца, які павёў са мной даволі лёгкую гутарку, быццам з пустой дзяўчынай. Я спахмурнела, надулася і не вельмі ветліва нешта барматала яму ў адказ. Тады і ў думку не магло мне прыйсці, што пазней наша дружба з ім застанецца на ўсё жыццё.

Незабыўнае ўражанне пакінула па сабе першая беларуская вечарына ў Вільні 12 лютага 1910 года, дзе выступала трупа Ігната Буйніцкага і хор пад кіраўніцтвам кампазітара Рагоўскага. За ўсё сваё жыццё я нідзе і ніколі не бачыла такога бурнага ўзрушэння мнагалюднай публікі, такой шырокай гамы пачуццяў ад голаснага ва ўсхліб плачу падчас першага выканання песні "А хто там ідзе?", песні, якой суджана было стаць гімнам аж да 1917 года, да бурных воплескаў і крыкаў захаплення ад народных танцаў, дзе ў першай пары ішоў сам Буйніцкі з дачкой.

Безумоўна, і Янку Купалу моцна ўзрушыла выступленне трупы Ігната Буйніцкага. Трэба зазначыць, што ў гэты час, апрача ўстарэлых п'ес Дуніна-Марцінкевіча, не было арыгінальнага беларускага сцэнічнага рэпертуару. Буйніцкі карыстаўся перакладамі ўкраінскіх п'ес і інсцэніроўкамі апавяданняў Элізы Ажэшкі "У зімовы вечар" ("Рысь") і "Хам". Гэта навяло на думку Янку Купалу стварыць арыгінальную беларускую п'есу, якая б адлавядала сучаснасці.

У 1912 годзе Купала напісаў камедыю "Паўлінка". На традыцыйных суботніках на кватэры прафесара Браніслава Эпімах-Шыпілы, дзе збіралася студэнцкая моладзь, кампазітары, мастакі і беларускія навукоўцы, Я. Купала прачытаў нам сваю "Паўлінку". Усе мы загарэліся жаданнем паставіць "Паўлінку" на карысць студэнцкай касы ўзаемадапамогі. За арганізацыю пастаноўкі ўзяўся брат прафесара, энтузіяст і аматар тэатральнага мастацтва Уладыслаў Эпімах-Шыпіла. На рэжысёра ён запрасіў артыста Александрынскага тэатра Бэкін-Драздова. Размеркавалі ролі. Мне даручылі галоўную ролю Паўлінкі. Рэпетыцыі адбываліся пад непасрэдным наглядам аўтара.

Нарэшце наступіў дзень спектакля, які адбыўся ў рабочым квартале ў клубе "Пальма". Усе білеты загадзя былі распраданы, але публікі ў зале было бітком набіта, больш чымся было месцаў у залі. Пастаноўка была ў рэалістычным плане. Поспех быў велізарны! І гэта тлумачыцца не столькі ігрой самадзейных артыстаў і не камедыйным жанрам, колькі праўдзівым адлюстраваннем быту беларускай вёскі, а галоўнае — сацыяльным зместам, які адчула рабочая публіка. Янка Купала, маючы на ўвазе той падспудны рэвалюцыйны рух, які існаваў у гэты час, увёў у сваю п'есу сацыяльны матыў настолькі, наколькі дазваляла тагачасная царская цэнзура.

Прыблізна ў гэтым жа часе адбылася і ў Вільні першая пастаноўка "Паўлінкі". Вясной 1913 года на канікулы я паехала ў Вільню. Музычна-драматычны гурток рыхтаваў паўторную пастаноўку "Паўлінкі". Паўстала пытанне, каму даручыць галоўную ролю: першай віленскай Паўлінцы — Маркевічанцы ці першай пецярбургскай. Адны стаялі за віленскую, другія — за пецярбургскую. Антон Лявіцкі, які іграў ролю Сцяпана Крыніцкага, запрапанаваў спытаць самога аўтара, які бачыў на сцэне адну і другую. Выбар паў на маю долю. Хаця мне не хацелася пакрыўдзіць Маркевічанку, аднак змушана была падпарадкавацца пастаноўшчыкам.

**(Працяг будзе).**

*ВОДГУЛЛЕ*

## ПРА КАМСАМОЛ І СБМ

Паважаны спадар рэдактар газеты "ГР"!

У N 26 ад 1 ліпеня 1993 года было змешчана аж два артыкулы адносна Саюза Беларускай Моладзі (СБМ). Артыкулы аб СБМ мне вельмі падабаюцца, бо гэта ж наша гісторыя, з якою мы не можам хавацца. Няхай чытаюць нашыя дзеці, унукі і праўнукі. Няхай яны судзяць вінаватых і заслужаных. Камуністычная прапаганда перад развалам сваё "чартоўскай імперыі" са скуры вылазіла, каб даказаць, што беларусы супрацоўнічалі з немцамі, і прышыла ім ярлыкі "здраднікі радзімы", "фашысты", "здраднікі камунізму". А яны, нягледзячы на акупацыю, адраджалі сваю нацыю, яе мову, традыцыі, абычаі і ўсё тое, што нашае беларускае.

Камуністы спадзяваліся, што беларуская нацыя ўжо задушана імі і не паўстане ніколі. А тут як з неба звалілася Незалежная Беларусь (хаця яна сёння яшчэ пад кіраўніцтвам камуністаў), камунізм развальваецца, як тая старая гліняная печ. Беларусь жа, хаця і марудна, аднак ступенька па ступеньцы адраджае сваё тое, што было знішчана камуністамі. Беларускія і расейскія камуністы жывуць учарашнім днём ды ўчапіліся Беларусі, як тая гліна да портак, і стараюцца перашкаджаць беларусам адраджаць сваю незалежнасць. Ці ж гэта не ёсць іхняя пустагаловая палітыка, каб увесці нейкае "двухмоўе"? Што яны — аслеплі?! Ці ёсць у свеце хаця адна дзяржава, якая б мела "двухмоўную" дзяржаўную мову? Вазьміце за прыклад Вялікабрытанію. Дзяржаўная мова ангельская, а на вуліцах, у крамах, у парках, у аўтобусах, у цягніках гавары сам да сваіх у якой мове табе выгадна, або каб цябе зразумелі. Калі ж нехта з'явіцца ў канцылярыю, каб уладзіць тую ці іншую справу, і калі ён не разумее ангельскай мовы, тады клічуць перакладчыка ды спраўку, якой ён дамагаўся, выдадуць у ангельскай мове. Аб "двухмоўях" дык нават ангельскі хвораўмысловы чалавек пасмяяўся б.

Цяпер хачу хоць крыху сказаць аб СБМ і беларускім камсамоле. Я асабіста ані да камсамола, ані да СБМ не належаў, аднак меў нагоду быць на іх сходах.

Памятаю камсамольскі сход у Баранавічах. Зала абвешана савецкімі чырвонымі сцягамі з сярпамі і молатамі. На сценах — велізарныя партрэты Сталіна. На сходзе чыталіся рэфераты на тэмы: "Рэлігія — опіум народа", "Сённяшняя сусветная палітычная сітуацыя", "Мэты і заданні беларускага камсамола". "Рэфератчыкі" на антырэлігійныя тэмы скардзіліся, што Беларусь пакрыта сеткаю цэркваў, прыдарожных крыжоў, капліц, а вось будынкаў пад культурныя клубы нестае. Што рабіць? Камсамольцы павінны рабіць так, як у некаторых калгасах сяляне: добраахвотна перадалі будынкі цэркваў пад клубы і магазіны ды паламалі прыдарожныя крыжы, а капліцы пусцілі на ацяпленне клубаў. Пра свяшчэннікаў і ксяндзоў казалі, што, распаўсюджваючы веру ў Бога, яны дэмаралізуюць і дэзарыентуюць беларускі народ.

Прычым рэфераты чыталіся толькі ў расейскай мове.

Я меў нагоду быць на сходзе сяброўак СБМ у тых жа Баранавічах.

Зала была ўпрыгожана беларускімі і нямецкімі сцягамі, а пасярэдзіне вісеў наш беларускі герб "Пагоня". Зала была перапоўнена дзяўчатамі, чыста і прыгожа апранутымі — у мундзіры і спаднічкі СБМ. Далося заўважыць вялікую дысцыпліну і культурнае ўзгадаванне сяброўак. У рэфератах ставіліся надзённыя задачы: пашырэнне беларускай мовы, народных традыцыяў, абычаяў і культуры. Звярталася ўвага на моладзь беларускіх вёсак: ствараць на вёсках культурныя і асветныя камітэты моладзі для арганізавання нацыянальных свят 25-га Сакавіка, Слуцкага паўстання, святаў, прысвечаных беларускім паэтам, народным дзеячам, і г.д. Гаварылі на сходзе пра арганізаванне маладзёжных культурных гулянак (дажынкі) і рэлігійных сяброўскіх вечароў на калядную куццю, спатыканне Новага года і г.д. Некаторыя скардзіліся, што напаткалі вялікія цяжкасці пры спробе арганізаваць культурныя камітэты моладзі на вёсках. Так, у вёсцы Грускова Нясвіжскага раёна моладзь арганізавала дажынкі. Вечарам напалі партызаны. Пагражаючы зброяй, загадалі ўсім прысутным выйсці на сярэдзіну залы і садзіцца, залажыўшы рукі на шыі. Партызаны пазнімалі з рук гадзіннікі, пярсцёнкі, завушніцы, з кішэняў забралі грошы і загадалі не выходзіць з залы аж да раніцы. За тыдзень часу ў той жа самай вёсцы Грускова забілі, адзін па адным, сяброў культурнага камітэта моладзі. Гэтым нагналі страху па ўсіх сёлах. Сталася так, што пад страхам цяжка арганізаваць культурныя камітэты моладзі.

На сходзе СБМ звярталі ўвагу, каб праваслаўныя свяшчэннікі і каталіцкія ксяндзы прамаўлялі казанні ў беларускай мове. Але тут ізноў напатыкалі цяжкасці. У мястэчку Цырыне, напрыклад, за беларусізацыю партызаны забілі свяшчэнніка. Прыход застаўся без пастыра. Падмены немагчыма знайсці.

Былі таксама ўнесены скаргі, што нямецкае СС і СД акружаюць беларускія вёскі, а моладзь сілаю зганяюць у лагеры для вывазкі на прымусовыя работы ў Нямеччыну. Таму Галоўная кватэра СБМ у Менску і кіраўніцтва БНС у Менску запратэставалі генеральнаму камісару Беларусі генералу СС Готбергу.

На заканчэнне трэба сказаць, што СБМ быў вызначаны камісарам Беларусі Кубэ як найгоршым ворагам савецкага камунізму, таму арганізацыя СБМ была, вядома ж, антыкамуністычная.

Арганізацыя беларускага камсамола была вызначана загадам камуністычнай партыі Савецкага Саюза, таму камсамол быў камуністычнай арганізацыяй, арганізацыяй антырэлігійнай.

Сёння, калі ж Беларусь, ступенька па ступеньцы, замяняе дыктатуру камунізму ў дэмакратычны лад, СБМ і камсамол маюць поўнае права спраўляць свае ўгодкі існавання, абы толькі дзейнасць гэтых арганізацыяў ішла на карысць адраджэння незалежнай, дэмакратычнай Рэспублікі Беларусь. Аднак жа тыя арганізацыі, якія паўстаюць на шкоду адбудовы незалежнай, дэмакратычнай Рэспублікі Беларусь, павінны быць закрытыя ўрадам, а кіраўніцтва моцна пакарана.

**С. ШЧЭРБА.**

Англія.

*СПАДЧЫНА*

# РАДЗІВІЛЫ І ІХ КАРЭЛІЦКІЯ ГАБЕЛЕНЫ

Згодна з гістарычнымі крыніцамі, князі Радзівілы ўнеслі значны ўклад у развіццё Карэліч. І перш чым перайсці да апавядання пра карэліцкія габелены, я коратка нагадаю, як выглядала карэліцкая забудова ў XYII—XYIII стагоддзях, бо тады будзе зразумела, чаму менавіта тут была створана габеленавая майстэрня.

Інвентар 1640 года дае апісанне драўлянай сядзібы Радзівілаў, пабудаванай у традыцыях беларускага народнага дойлідства. Яна складалася з 2-х двароў: княжацкага і "прамысловага". Першы двор меў дом гаспадара, дом для эканома, двухпавярховыя свірны з прыгожымі балюстраднымі галерэямі і кухню. Праз высокую браму з пляцоўкай уверсе для назірання пералічаныя пабудовы злучаліся з прамысловым дваром сядзібы, у якім дзейнічалі бровар і сыраварня, размяшчаліся дом для парабкаў, некалькі стайняў, гумно і інш. пабудовы. З боку мястэчка ў двор вяла высокая двухпавярховая драўляная брама, атынкаваная звонку глінай і пабеленая, якая мела 3 жылыя пакоі ў верхнім ярусе. Княжацкі дом быў аднапавярховы з алькежамі, накрыты гонтавым дахам, завершаны двума дэкаратыўнымі флюгерамі. Дом меў прыхожую, тры жылыя пакоі, сталовую, кухню, камору. Галоўны ўваход быў вылучаны слупавым ганкам, завершаным купалам, які быў бачны здалёк. Сядзібу знішчылі ў 1655 годзе рускія войскі падчас руска-польскай вайны 1654—1657 гадоў.

Другую сядзібу Радзівілы пабудавалі пасля вайны ў другой палове XYII стагоддзя. Яна складалася з двух драўляных аднапавярховых дамоў з саламянымі стрэхамі, кухні, сыраварні, варыўні, свірнаў, двух млыноў і іншых пабудоў. Гэтая сядзіба была таксама разбурана ў 1706 годзе рускімі войскамі падчас Паўночнай вайны Расіі супраць Швецыі (1700—1721 гады).

Трэцюю сядзібу Радзівілы пабудавалі ў 1730 годзе ўжо як сядзібна-палацавы комплекс, у склад якога ўваходзілі палац у стылі барока, флігель, вялікі сад, гаспадарчыя пабудовы, дзве брамы (адна з боку мястэчка, другая ад дарогі на Навагрудак). Драўляны палац быў двухпавярховы і завершаны вальмавым гонтавым дахам з мансардай. На першым паверсе была прыхожая, гардэроб, зала, парадная лесвіца на другі паверх, тры жылыя пакоі якога былі аздоблены палатнянымі шпалерамі, размаляванымі ў тэхніцы гарачага батыка выявамі кветак; печы выкладзены каляровымі кафлямі, пакоі былі абстаўлены мэбляй, упрыгожанай рэльефнай разьбой. Перад палацам размяшчаліся кветнікі, а за імі — так званы "італьянскі сад", на трох тэрасах якога раслі пладовыя дрэвы і кусты, былі створаны лабірынты і аранжарэя. І гэты сядзібны комплекс быў таксама разбураны.

Наяўнасць у мястэчку багатага феадала спрыяла развіццю рамёстваў (вырабу мэблі, тканін, рознага посуду, адзення, абутку і інш.). Дзякуючы Радзівілам мястэчка развівалася і разбагацела настолькі, што змагло разам з Радзівіламі пабудаваць у XYIII стагоддзі на гандлёвай плошчы драўляную ратушу (хаця ратушы будаваліся звычайна толькі ў гарадах, якія мелі магдэбургскае права, Карэлічы яго не атрымалі). Яна была аднапавярховая, выцягнутая па падоўжанай восі і накрыта двухсхільным гонтавым дахам. Цэнтральная частка ратушы вылучалася ўверсе купалам, завершаным флюгерам з гербам Радзівілаў, унізе — шырокай праезджай аркай, якая зачынялася двухстворкавымі варотамі. Абапал ратушы размяшчалася 28 крам з асобнымі ўваходамі з боку плошчы. Яна таксама разбурана і вядома нам толькі паводле інвентара XYIII стагоддзя.

Прыведзеныя планіровачна-структурныя факты забудовы сядзібаў з паркамі, самой гандлёвай плошчы з ратушай сведчаць, што выгляд Карэліч адпавядаў узорам заходнееўрапейскіх дробнаўласніцкіх гарадоў. Зараз ад былой рэзідэнцыі князёў Радзівілаў і ратушы нічога не засталося, а шкада. Застанься тая сядзіба і ратуша ў горадзе, ад турыстаў не было б адбою, горад меў бы добры прыбытак і перспектывы развіцця. Але вернемся зноў да гісторыі.

Пасля турботных маскоўскіх войнаў XYII стагоддзя і шведскіх у XYIII стагоддзі (1700—1721) Радзівілы пачалі актыўна забудоўваць свае разбураныя двары і маёнткі, а таксама засноўваць уласныя мануфактуры і майстэрні, мадэрнізаваць старыя па вырабу мастацкіх рэчаў. У той час у іх з'явілася ідэя "адрадзіць" існаваўшыя ў Беларусі розныя промыслы і рамёствы. Натхненнем паслужылі прыклады развіцця заходнееўрапейскага мастацтва. Напэўна, галоўную ролю адыграў прыклад манархіі Людовіка XIY, якая імкнулася да незалежнасці свайго рамяства ад імпарту з Італіі і Фландрыі. Асобую ролю ў т.зв. "індустрыялізацыі" Беларусі ў XYIII стагоддзі адыграў сам кароль Станіслаў Панятоўскі (дарэчы, ураджэнец Беларусі з вёскі Воўчын Камянецкага раёна Брэсцкай вобласці). Але першымі гэтую пачэсную справу адразу пасля падпісання міру ў 1721 годзе распачалі Радзівілы і менавіта Ганна Радзівілава (1676—1746), жонка Карла Станіслава (1669—1719), якая паходзіла з мясцовага княжацкага роду Сангушкаў. Яна заснавала шкляныя мануфактуры ў вёсках Налібокі (1723) і Урэчча (1737), шліфавальні каштоўных камянёў у в.Бялая (1720) і напаўкаштоўных камянёў у в. Янкавічы (1737), ткацкія ў в.Бялая (1733—1737), в. Паланая і інш. Яна ж сабрала вакол сябе значную групу мастакоў — жывапісцаў і дэкаратараў (цяпер іх называюць мастакамі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва) як замежных, так і мясцовых. Для бяльскай майстэрні "шпалераў і арасаў" (так называлі тады габелены) яны стваралі малюнкі і кардоны. Ужо ў 30-я гады прыдворны мастак Радзівілаў Ксаверы Дамінік Гэскі пачаў маляваць "гісторыю на шпалерах пад алей", якую пазней ужо выткалі ў габеленавай тэхніцы пасля смерці Ганны на ткацкіх мануфактурах у Міры (1747—1750), Альбе каля Нясвіжа (1747—1752) і Карэлічах (1760—1792), якія заснаваў яе сын —гетман Міхал Казімір па мянушцы "Рыбанька" (1702—1762). Ён стаў гаспадаром найбольшай маёмасці не толькі на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага, але і Рэчы Паспалітай. Яго ўславіла гістарыяграфія як стваральніка "фабрык". Запіс 1778 года ў калекцыі гравюр "Polonorum Jcones" паведамляе: "Ён мануфактуры вельмі любіў, якія на сваіх землях з карысцю заснаваў, з якіх у першую чаргу... персіярню ці розныя работы каштоўных паясоў у французскім ці арыентальным (усходнім. — **М.Я.**) стылях, суконную майстэрню і майстэрню тканін для адбіўкі з рознымі гісторыямі..." Важнейшымі былі яго інвестыцыі ў Нясвіжскую персіярню, якую ён пазней перавёў у Слуцк, і габеленавую майстэрню ў Карэлічах, якая працавала больш працяглы час за ўсе астатнія (Бяльскую, Мірскую і Нясвіжскую). Радзівілы стваралі габеленавыя майстэрні там, дзе спакон веку развівалася ткацкае рамяство. Да такіх цэнтраў адносіліся і Карэлічы.

7 кастрычніка 1752 года князь піша "Распараджэнне для мастакоў", у якім даручае групе прыдворных мастакоў пад кіраўніцтвам Гэскага "Старога" (Ксаверыя Дамініка) выкананне "Гісторыі Нашага Дому (у сэнсе роду. — **М.Я.**) на шпалеры пад алей", гэта значыць падрыхтаваць карціны і кардоны, па якіх майстры выткуць шпалеры ў габеленавай тэхніцы, якая дае ўражанне алейнага жывапісу. Кардоны для габеленаў павінны былі маляваць таксама сын Старога Гэскага — Юзаф Ксаверы Гэскі, Казімір і Канстанцін Лютніцкія, Скрыцкі (імя невядома), а таксама Андрэй (прозвішча невядома). Узорамі служылі карціны з Нясвіжскай галерэі і графіка Абрахама ван Вестэрфельда. Габелены прызначаліся для Нясвіжскага замка — галоўнай рэзідэнцыі буйных магнатаў.

У 1764—1765 гадах залы Нясвіжскага замка ўжо ўпрыгожвалі некалькі жывапісных карцін, якія праслаўлялі важныя сямейныя падзеі і называліся "экспрэсіяй накшталт шпалераў": "Мікалай Радзівіл Чорны ў 1560 г. прымае ад караля Зыгмунта пашану ад цэсарскіх паслоў", "Наданне тытула Князя Святой Рымскай імперыі Мікалаю Радзівілу Чорнаму імператарам Карлам Y у 1547 г.", "Каранацыя Варвары Радзівілаўны", "Пацвярджэнне княскага тытула Радзівілаў на сейме ў Петракове", "Бітва князя Януша Радзівіла пад Кіевам", "Баталія з Турцыяй пад Хоцінам за Міхаіла Казіміра, польскага гетмана", "Уціхамірванне бунта пад Славечнай". Частка гэтых "маляваных арасаў" захоўвалася ў Нясвіжы да 1939 года, у тым ліку была там цудоўная карціна "Агляд войскаў пад Заблудавам", яе памеры найбольш адпавядалі габелену (320х590 сантыметраў) і інш., сярод якіх карціны галандскага мастака Абрахама ван Вестэрфельда "Уступленне ў 1651 г. князя Я.Радзівіла ў Кіеў", а таксама знікшая карціна на тэму ўзяцця ў палон Крычэўскага пад Лоевам у 1649 годзе, на якую арыентаваўся мастак Гэскі, калі ствараў кардон для адпаведнага габелена.

На сённяшні дзень з 10-ці захавалася толькі 5 радзівілаўскіх габеленаў, у стварэнні якіх прымала ўдзел Карэліцкая майстэрня (іншыя даследчыкі называюць яе мануфактурай), куды перанеслі вытворчасць габеленаў у 1760 годзе. Сыравіну ("пражу" — так падаюць назву інвентары) для яе дастаўляла суконная фабрыка з Нясвіжа (1752—1767).

1. Габелен "Агляд літоўскіх войскаў пад Заблудавам" знаходзіцца ў Нацыянальным музеі Кракава (Збор Чартарыйскіх) як дэпазіт Іераніма Радзівіла з Баліцы, аддадзены да 1939 года. Ён мае метку ткачыхі "Анастазя Маркевічова". З'яўляецца па сутнасці манументальным конным партрэтам Міхала Казіміра Радзівіла Рыбанькі, які красуецца на ўздыбленым кані. Князь паказаны з гетманскай булавой у руцэ, у поўным узбраенні, футравай шапцы з апярэннем. Конь таксама ў багатым уборы, з чорным султанам над галавой, накрыты вышытым чапраком з кутасамі. Гераічная фігура князя (маштабна вылучана на пярэднім плане) нават засланяе галоўную тэму — парад войскаў перад каралём Аўгустам III, які адбыўся 24 верасня 1744 годзе ў Беластоцкім павеце. Кампазіцыя пабудавана па ўзору абразоў, калі адлюстроўваюцца рознычасовыя дзеянні. У глыбіні кампазіцыі, на другім плане, перад вялікім шатром кароль са світай аглядае атрады кавалерыі на чале з тым жа Міхалам Казімірам, які ў гэтай сцэне дадзены другі раз. За дрэвамі пярэдняга плана, якія нібы кулісы на сцэне, праглядаюцца ўзгорыстыя прасторы палеткаў, перасечаных стужкай ракі Мелянціны. На гарызонце віднеюцца палаткі ваеннага лагера.

(Заканчэнне на 8-й стар.).

# ЛЁС -- І НАД ЛЁСАМ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Антон Адамовіч ва ўступным артыкуле да выніковай кнігі Наталлі Арсенневай "Між берагамі" ўвесь час падкрэслівае "натуралізацыю" паэткі ў беларушчыне, маючы на ўвазе яе расейскія карані. Хто яго ведае, ці мае ён рацыю: неяк у беларусаў, што займелі вядомасць як расейскія і польскія творцы, ніхто не спяшаецца вызначыць іх "некарэннасць". І, мабыць, была найвышэйшая воля ў тым, каб беларус Максім Багдановіч, што вырас і вучыўся ў Расіі, дапаў сэрцам і розумам да зямлі бацькоў і ёй, яе мове аддаў свой талент. І было найвялікшае казанне ў тым, што патомная Арсеннева, пабачыўшы свет у Баку, не толькі радзімай, але і месцам нараджэння лічыла Вільню, "дзе... фактычна расла й гадавалася ад першых месяцаў свайго жыцця". І менавіта ў гэтай сувязі з Бацькаўшчынай — радасць і боль, светлае і трагічнае.

... Лёс Наталлі Арсенневай не быў скапны на адзнакі абранасці. Ад самага нараджэння — вэлюм паходжання, што лучыў яе з адным з вяршынна таленавітых паэтаў, з адной з самых трагічных жыццёвых пуцявін. У Беларускай гімназіі, у Вільні, "у кузні беларускіх дзеячоў", першы верш яе прачытаў і ўхваліў сам Максім Гарэцкі, што выкладаў на тую пару там. (Сярод настаўнікаў быў і Браніслаў Тарашкевіч. Можна ўявіць узровень шкалення). У 30-я гады свае вершы ёй прысвячаюць Максім Танк і Міхась Машара. "Дзіўна песні Твае расцвітаюць сузор"ямі", "Твая душа сатканая з вясёлак і зарніц"... Мала хто нават з абранніц паэтычнай музы можа пахваліцца такімі зваротамі.

Жыццёвы шлях аказаўся, аднак, сатканым не з вясёлак. З 16-ці год давялося дапамагаць сям'і, даючы ўрокі французскае і нямецкае мовы. У 40-м годзе, пасля далучэння Заходняй Беларусі да СССР, ссылка ў Казахстан. Вайна. Смерць сына. Эміграцыя.

Вайна... Менавіта тут звяз, скрутак, які не так проста тлумачыць, зразумець, пазначыць фактамі і аргументамі.

Наталля Арсеннева вярнулася з Казахстана ў траўні 1941 года, з'ехала з Беларусі ў 1944-м. Падчас вайны была ў Менску. Жонка Францішака Кушаля, прафесійнага вайскоўца, кар'ера якога пачалася ў 1915 годзе ў расейскай арміі, аднаго з арганізатараў, а пазней старшыні Беларускай вайсковай камісіі ў 1919—1920-х гадах, афіцэра польскай арміі ў 20—30-я гады. Падчас другой сусветнай вайны — камандуючага Беларускай краёвай абароны — вайсковага фарміравання, падкантрольнага нямецкаму кіраўніцтву. Паводле нашай афіцыйнай думкі да нядаўняга часу — калабаранта і здрадніка. Паводле сцвярджэнняў беларускай палітычнай паваеннай эміграцыі — ахоўніка інтарэсаў барацьбітоў за незалежную Беларусь. Паводле многіх сучасных даследчыкаў — трагічная і неадназначная постаць. Якая ў яго лёсе доля заблуджэнняў, якая канфармізму і калабарацыянізму, гэта будуць высвятляць вучоныя. У нас гаворка — пра Наталлю Арсенневу. Паэтку.

Яна — пісала вершы. Рабіла пераклады. Што яшчэ? Здаецца, дарэчы, канкрэтных абвінаваўчых дакументаў, што кампраметавалі б яе, няма. І суддзя ёй — Усявышні.

А мы — чытаем яе вершы. Творчасць яе, незалежна ад асабістага лёсу, — набытак Беларусі. Я не хачу згадваць адносіны да твораў Кнута Гамсуна, адкрытага калабаранта, або афіцыйнага паэта рэжыму Мусаліні Габрыэле д'Анунцыа. Наталля Арсеннева нідзе і ніяк не выявіла сваіх адносін да фашызму. Як яна сама пазначыла ўжо зараз у адказ на пытанні паэта Пранчака, "я не палітык, я паэт". Паэтка, з творчасцю якой большасць з нас займела магчымасць пазнаёміцца зусім нядаўна. Выйшаў зборнік "Пад сінім небам" (факсімільнае выданне кніжкі 1927 года), у бібліятэках можна прачытаць яе кнігу паэзіі "Між берагамі". Кнігу, якую адкрывае на франтыспісе той самы партрэт Пётры Мірановіча. Кнігу, дзе сабраны вершы паэткі за паўвека.

Паэткі з тых, што не прамінуць увагай вёснаў, восеняў, красавікоў, пралескаў, туманоў, росаў, зораў. Колькі іх на старонках кнігі! "З кажнай хмаркі ў небе празрыстым, з кажнай лужынкі светлай і чыстай усміхаецца ясна вясна"; "Сыплецца саду краса, кроплі дажджу, як раса, ззяюць сцюдзёнай палівай"; "Цвіце магнолія... Мільёны матылёў, бялейшыя за снег, трапечуць на галінах"; "Кроплі золата восень губляе з перапоўненай гары жыцця..."

Наталля Арсеннева даўно зразумела гаючую злагаду вялікай лекаркі Натуры — ва ўсіх жыццёвых абставінах.

**Калі людзі пакрыўдзяць цябе,**
**Калі хочацца плакаць, маліцца, —**
**ты ідзі вузкай сцежкай у лес,**
**там так лёгка на крыўды забыцца!**

...Многія даследчыкі скрупулёзна вывучаюць абставіны жыцця творцы, лічачы, што грунт кожнаму вершу — пэўнае здарэнне. Вось адбылося тое — верш, здарылася гэта — верш, спаткаўся з тымі — вершы. Тут ёсць рацыя, але паэт — не летапісец. І стан душы, бывае, зусім выпадае з хронікі падзей. Размова не пра тое, аб чым, шырока цытуючы Гегеля, разважае Антон Адамовіч, — вось быў "верш на выпадак у вузкім сэнсе", а пазней стаўся "вершам на выпадак у шырокім сэнсе". Гаворка пра вершы, так бы мовіць, "супраць выпадку", "супраць падзей".

...Пачатак 20-х гадоў. Замужжа. Нараджэнне сына. Шчаслівыя, здаецца, падзеі. А вершы ў танальнасцях яе геннага продка. "Што сумна шэпчуць мне тыя ночы?", "Шчасце — як сонца: маленькая хмарка пройдзе па небе ціхім сярод дня — сонца ўжо свеціць так жутла, няярка, момант — і сонца няма"; "Шчасце — як светлыя, ясныя мары: рэзкае слова, заўвага адна, — і дагараюць яны ў пажары, момант — і мараў няма". Ёсць нават такое: "На матыў хаўтурнага марша". Можа, і былі невядомыя жыццёвыя згрызоты, аднак, здаецца, галоўнае — была магчымасць і нагода раздумаць над ходам жыцця, поступам гісторыі. Паэтка прыглядаецца да Быцця ў перспектыве вечнасці, з пазіцый агульначалавечага сэнсу і "здравого смысла". Чалавецтва прайшло нялёгкі шлях, і горкі яго вопыт чамусьці аніяк не паўплываў на ўчынкі асобных людзей і волю народаў. "Мала іх пошасці, войны з пажарамі білі, аж слёзы плылі, як ракаʔ"; "Досі ўсцяж шчасця шукаць па аселіцах, шчасце ж людское, як казкі, — мана". І нават роспачна падагульняе: "...сэрца дрыжыць: досі ўжо, досі ўжо жыць!"

Наталлі Арсенневай уласцівая пазіцыя адстароненага назірання, найбольш у творчасці выяўленая ў 20—30-я гады. Прынамсі, тады яна вызнае прынцып: над жыццём.

**Я б хацела гарэць і змагацца, як вы,**
**разам з вамі каваць так чаканае**
**ранне,**
**але дні мае іншыя маюць правы:**
**сыпкім золатам ліпаў маняць і**
**цыганяць.**

Наталля Арсеннева прынцыпова вядзе гаворку нібыта сама з сабой, наўмысна пагарджае "зямным" вопытам. Яна не хоча эксплуатаваць свае жыццёвыя радасці і нягоды.

**Я —**
**не жыву вясной...**
**................**
**Я —**
**й летам не жыву...**
**..................**
**А ўвосені узноў —**
**заміж мяне асіны**
**чырвоны гасяць жар у рэдкім тумане,**
**і плача дробны дождж так нудна,**
**безупынна**
**па сонцы і вясне,**
**але...**
**заміж мяне.**

Іх многа, гэтых вершаў з падкрэсленай тужлівай экзістэнцыяй і відавочным праграмаваннем свайго адстароненага быцця. То было творчай і жыццёвай пазіцыяй, але не было зломам душы.

Жыццё жорстка ўварвалася ў яе "вежу", яе "кастэлю". "В буднях великих строек" такія настроі, мякка кажучы, не заахвочваліся. Пасля далучэння Заходняй Беларусі да СССР Наталля Арсеннева нядоўга працуе ў "Вілейскай праўдзе", прымае нават удзел у стварэнні "Пісьма таварышу Сталіну ад працоўных Беларусі", а ў сакавіку 1940 года выпраўляецца ў ссылку ў Казахстан разам са сваімі двума сынамі. Мы яшчэ прачытаем яе ўспаміны пра той час (яны рыхтуюцца да друку). Знявага чалавечай асобы, беспадстаўнасць абвінавачвання, крыўда... І — адчуванне, асабліва заўсёды абвостранае падчас расстання, а тым больш прымусовага, свайго дачынення да "блакітнай, далёкай Радзімы", сваёй неад'емнасці ад яе. Узрушанае, глыбокае пачуццё, раней пакрыёмае, захаванае, выяўленае ў любові да палёў, лугоў, лясоў, азёраў, робіцца адкрытым, фантаніруе і відавочна, наўмысна прыцягвае да сябе ўвагу. Беларусь!

**Магутны Божа! Уладар сусветаў,**
**вялізных сонцаў і сэрц малых,**
**над Беларусяй ціхой і ветлай**
**рассып праменне Свае хвалы.**
**.................................................**
**Дай урадлівасць жытнёвым нівам,**
**учынкам нашым пашлі ўмалот.**
**Зрабі свабоднай, зрабі шчаслівай**
**краіну нашу і наш народ!**

Гэты рэлігійна-патрыятычны гімн датаваны 1942-м годам. Менавіта тым часам яна стварае таксама "Песню каліноўцаў", верш да 25-х угодкаў склікання Усебеларускага кангрэса, вершы "А ўсё ж будзем жыць", "Жыве Беларусь", "Хай грыміць", "У дажынкі" і г.д. Ніводны з іх ніяк не закранае акупанатаў — ані добрым, ані кепскім словам. Вайну Наталля Арсеннева, калі меркаваць па вершах, успрымае як няшчасце наогул. Па-жаноцку. Па-чалавечы. "Колькі ж, колькі віхор вайны сэрцаў людскіх разбіў, пакалечыў". Невясёла раздумвае пра долю сваіх суайчыннікаў — навала за навалай, вайна за вайной. "Зжыў свой век дзядуля, як усім жылося — за цара, за веру біўсяваяваў,.. перажыў кастрычнік, голад і развал. Прычакаў калгасаў... Большы сын у горад ад калгаснай долі на завод уцёк. Меншы — хоць нічога не зрабіў благога, у тайзе ссякае з хвоямі жыццё..." Ёсць у гэтым вершы "Стары Сымон" і такі паварот: "Ды дасі ж ты веры, каб штыхом ці куляй хтось прынесці шчасце або волю мог? Дось крыві старому, і зямля-матуля не штыхоў чакае..." Дось крыві... Але па свеце падчас напісання верша ідзе 1941-шы год... На што спадзяецца паэтка? А яна ж сцвярджае: "Хай кон сёння ў вочы нам хлусіць, Хай сцёбае, нішчыць угрунь, — а будзем з крыніц Беларусі мы жменяю чэрпаць зару!" На што спадзяецца? На незнішчальную жыццяздольнасць зямлі і людзей? На лёс? На шчаслівы выпадак? Ці гэта салодкі падман? Спапялёны Менск... Зруйнаваная Беларусь... Магчыма, як сцвярджаюць сённяшнія гісторыкі і стратэгі беларускага руху падчас акупацыі накшталт Езавітава, была надзея на новы перападзел пасля вайны і незалежную Беларусь? Цяжка сцвярджаць. Можна толькі канстатаваць: гэта патрыятычная паэзія. Хаця роздумная рэфлексія таксама выдае сябе ў вершах, тая пазіцыя —"над жыццём". І — ваганні... "Але пра што пісаць? Пракорам быць па часе, нізаць каралі рос, вянок асенні віць?", "Пісаць аб салаўёх, аб снежнай белі вішняў? Замоўклі салаўі пад медны рык гармат..." І тут жа згадвае пра свой вялікі скарб, пазначаны ў пазнейшым вершы: "Мне лёс даў можа болей, як каму..." І Наталля Арсеннева трымаецца за слова, як за асноўную сваю сілу, лекі, адзіны ратунак: "Не, паэт не матыль — у вагні... Паэт жа —асілак!"; "З чаду, з шэрага дыму руін, з віску куляў, гарматных грымотаў ён, падумаўшы, выплавіць гімн гэткі ж жудасны, гэткі ж смяротны..." І — мае вялікае сумніва, пакутуе, не верыць: ні ў гармонію свету — дзе тая гармонія, — ні ў вышэйшую сувымеранасць, ні ў раўнавагу сіл душы і стыхій свету, ні ў карысць самапазнання. "Я ж пішу... Навошта я пішу? для каго? Па шчырасці — не знаю. Бо ж не вершы ў свеце ўзнімаюць шум і не рыфмы шум той сунімаюць". Дзе ён, невымерны, нечуваны гімн? Дзе асілак? "Паэты — гэта міт камічнанедарэчны, у наш нахабны, злы, куслівы час".

Так, не паэты змяняюць мапы зямлі, не яны вызначаюць лёс людзей, але душа і сэнс свайго і чужога жыцця, гармонія светапарадку, уменне пераадолець немасць рэчаіснасці, правесці жывую душу па лабірынтах трывог і спадзяванняў — тое, што падуладна паэтам.

**Словы — ветры на крылах**
**птушыных,**
**словы — зоры са шляху**
**сусветаў,**
**словы — пэрлы з нязнаных**
**глыбіняў...**

Наталля Арсеннева пазбягае падзейнага малюнку ў вершах. Мы не прасочым жыццёвых калізій у яе вершах — ні ў ранейшую пару, ні пазней, пазначу яшчэ раз. Хіба што ў гады эміграцыі яна няўрокам заўважыць: "А ўранні кажны гук патоне ў жудкім гоне трансмісіяў і кол... Пайду я працаваць..." І яшчэ неяк стомлена кіне: "Праароблена ўсё... Я маю крыху часу. Хоць гэта дзіўна — часу для сябе." Затое заўсёды паэтка асалодна ўнікае ў сутнасць красы звычайнага дня: "Мне ж дзівам найбольш вецце, якое залоціць восень", "Срэбным каўшом цішыню п'е за аселіцай месяц"; "Лісцё — віхор іржавых зор — над шахаўніцай вуліц кружыць..." Прыслухоўваецца да рухаў сваёй душы: "А мо пайсці глядзець, як сонца сеці топіць над шэрым плёсам хмар, плысці з людзьмі ў туман? Навошта?... ці ёсць яшчэ крыніца, з якое б я не чэрпала вады?.. Ды дзень міне, і зноў імкну я ў золь і восень шукаць крыніц, з якіх вады я не піла".

Зазнаўшы імпэт да гістарычнае тэмы ці, больш справядліва, гісторыка-патрыятычнай, паэтка і ў эміграцыі піша вершы з нагоды ўгодкаў Слуцкага паўстання, у гонар 25 Сакавіка... Складае вобразныя аповяды на біблейскія тэмы — "Радасць", "Каласы", "І была там вясна...", яе асабліва цікавіць цуд Уваскрэсення... На гэты цуд яна спадзяецца, і вяртаючыся думкай да Радзімы. "Мы дапаляліся і часам мы зноў шугаем угару, змянялі выганы і яслі ў вадным імкненні: "Беларусь!"; "О Новы Край, як гулі спыніўшы, хваля нас да порту прыжане, будзь нам прытулкам цёплым і ўтульным, але не Бацькаўшчынай, не!" Часам могуць нават падацца залішняй экзальтацыяй гэтыя бясконцыя звароты да Радзімы, гэтыя закліканні. Але — уявіўшы сабе тугу, усяісную, доўгую... "Куды тугу мы дзенем?" — пытанне не толькі Наталлі Арсенневай. І не толькі сваё адчуванне выслоўіць яна, згадваючы: "...карэнні нашыя ўліліся ў падзол радзімай глебы, і таму — не гінем" або, прамаўляючы: "Не, буду зноў пяяць, і верыць, як даўней, і спадзявацца Свята Уваскрэсення!"

...Лірычныя медытацыі, пафасныя вершы, роздум, пейзажныя і пейзажнафіласофскія замалёўкі, паэмы, пераклады... Плён трывалы. Пакуль што не так многім вядомы. Таму што часам і ўхвальнае "Ах!", і зніштажальнае "Ну і што?" — робяцца больш apriori. Прачытанне, асэнсаванне творчасці Наталлі Арсенневай наперадзе. І як бы кпліва і пагардліва паэтка не гідзілася "ройнашумлівага веча" крытыкаў, яны — чытачы. А чытачы, калі не народ, дык маса, колькасць. Супольнасць, калі хочаце. І калі паэт нешта стварае, дык усе гэтыя "сонцы", "неба", "усмешкі", "слёзы", выслоўленыя і надрукаваныя, робяцца фактам мастацкага, культуровага ўсведамлення. Якое месца зойме Наталля Арсеннева на беларускім паэтычным Парнасе — вызначыць час. Галоўнае — плён яе таленту прыйшоў да нас. Ну, а дзверы Муз адчынены: Apertae Musarum Januae.

**Ала СЯМЁНАВА.**

## РАМЯСТВО – АБНАЎЛЕННЕ





**"Рамяство-абнаўленне" — пад такой назвай у кастрычнікулістападзе ў Парыжы будзе разгорнута міжнародная выстава работ народных майстроў. Яна пройдзе ў рамках XXVII сесіі Генеральнай канферэнцыі ЮНЕСКА. Аўтарытэтнае міжнароднае журы аднадушна прапанавала для маючай адбыцца выставы і твор мінскага майстра Аляксандра Чапялянскага. Гэта каробка з бяросты для захоўвання берасцяных грамат, фамільных каштоўнасцей і пячацей. Выраблена яна пад уражаннем вывучаных майстрам гістарычных даследаванняў аб віцебскай берасцяной грамаце.**

**Аляксандр даўно займаецца ювелірнай апрацоўкай розных парод драўніны, што ёсць у Беларусі. З'яўляючыся старшынёй Саюза народных майстроў Мінскай вобласці, ён далучыў многіх умельцаў да гэтага прыгожага віду мастацтва.**

**НА ЗДЫМКАХ: народны майстар з Мінска Аляксандр ЧАПЯЛЯНСКІ; выраб з бяросты, выкананы майстрам.**

**Фота А. НІКАЛАЕВА.**

## НОВАЯ ГАЗЕТА

"Рагнеда" — так называецца выданне, што пабачыла свет у Салігорску. Газета мае дэвізам словы ўраджэнца гэтай зямлі Лявона Случчаніна: "Памятай, беларус, што і ты чалавек, які можа сабой гаспадарыць". Яе карэспандэнтамі, як сказана ў слове да чытача, могуць быць усе, хто неабыякавы да лёсу Бацькаўшчыны. Новае выданне ажыццёўлена энтузіязмам старшыні Салігорскай рады ТБМ настаўніцы Марыі Мацюкевіч, а фінансавала яго прамысловае таварыства "БелПВТТ" у асобе Леаніда Ясінава. У добры шлях, "Рагнеда"!

## ФАЛЬКЛОР У ФАРМІРАВАННІ ЭТНІЧНАЙ САМАСВЯДОМАСЦІ БЕЛАРУСАЎ

# ДАРУЮ ЦЯБЕ, НІЎКА, ХЛЕБАМ З СОЛЛЮ

У ФАРМІРАВАННІ этнічнай самасвядомасці беларусаў фальклор адыграў асобую ролю. Гэта абумоўліваецца яго велізарным значэннем у развіцці духоўнай культуры народа. Фальклорныя традыцыі складваліся на працягу стагоддзяў і не толькі адлюстроўвалі светапогляд, псіхалогію, маральна-этычныя і сацыяльныя ідэалы, вераванні, прававыя нормы, але і фарміравалі, выпрацоўвалі і выхоўвалі іх, вучылі няпісаным правілам паводзін, акумулявалі шматвяковы працоўны і жыццёвы вопыт народа, які выкарыстоўваўся новымі пакаленнямі.

Этнічная самасвядомасць беларусаў фарміравалася пад уздзеяннем шматграннай народнай культуры, асабліва пад уплывам адметных абрадаў і звычаяў, вуснапаэтычных твораў і іншых фактараў, якія адыгрывалі ў гэтым працэсе дынамічную ролю. Фальклор у большасці рэгіёнаў Беларусі лепш захаваўся, чым у многіх народаў свету, асабліва Еўропы. У 1871 годзе ў кнізе "Беларускія песні" вядомы фальклырыст П. Бяссонаў адзначаў, што "Белая Русь захавала і ў абрадзе ўрачыстасці, і ў песнях, якія яе суправаджалі, водгукі сівой старажытнасці, як нідзе ў славян".

Тое ж самае можна сказаць і зараз, як і сто дваццаць гадоў таму назад. Вось чаму без перабольшвання мы маем права сцвярджаць, што беларускі фальклор адыгрываў важнейшую ролю ва ўсіх сферах жыцця нашага народа, у тым ліку і ў фарміраванні нацыянальнай свядомасці.

Духоўны свет чалавека, яго светапогляд складваўся ў далёкім мінулым пад уплывам перш за ўсё міфалогіі, якая хоць і не была такой дасканала распрацаванай у беларусаў, як у антычных грэкаў або рымлян, але адчувальна адбілася на светапоглядзе народа, яго вераваннях, прымхах і забабонах, вуснапаэтычнай творчасці. Рэшткі міфалогіі нярэдка незаўважна жывуць і зараз у народных абрадах і паэзіі, прыкметах і павер'ях. Міфалагічныя вобразы характарызаваліся надзвычайнай разнастайнасцю і ахаплівалі ўсе сферы ўяўленняў чалавека ад хтанічнага свету да космасу.

Гаспадарлівы, працавіты беларус ужо з зімы клапаціўся аб будучым ураджаі. Народны працоўны вопыт укараніўся ў свядомасць беларусаў і адбіўся ў мудрых прыказках, прыкметах, рацыянальным парадам якіх сяляне падпарадкоўваліся нібы няпісаным законам і нормам жыцця і працы: "Рыхтуй летам сані, а зімою калёсы"; "Трэба ўлетку назбіраць, каб узімку было што жаваць"; "Увосень плача, хто вясною скача"; "Хто перад Калядамі жывёлу добра даглядае, той перад Вялікаднем за хвост не падымае"; "Хто рана сее, той насенне не губляе" і г.д. Таму ва ўсіх зімовых абрадах пераважала заклапочанасць сялян будучым ураджаем, забяспечыць які яны спадзяваліся праз магічныя дзеянні і магічныя словы.

Магічны сэнс мелі, напрыклад, абрадавыя дзеянні, характэрныя для пэўных мясцовасцей. У в. Жытлін Слонімскага павета напярэдадні Новага года сяляне ламалі галінкі сухога дуба з сухімі лісцямі і затыкалі іх у пабудовы, сцены хат, хлявоў, гумнаў (свяшчэннік С.М. Дзем'яновіч, які апісваў звычай, называў гэта дрэва "глухім дубам" — пароду дуба, на якім сухое лісце трымаецца ўсю зіму). Галінкі дуба з сухім лісцем сімвалізавалі сілу, моц, здароўе: усё ў хаце і ў хлявах павінна быць такім жа моцным, як дуб, на працягу ўсяго наступнага года.

Абрады, звычаі, характэрныя для пэўных рэгіёнаў, а яшчэ больш тыя, якія мелі агульнанацыянальнае пашырэнне, але не распаўсюдзіліся ў іншых народаў, адыгрывалі значную ролю ў фарміраванні нацыянальнай самасвядомасці. Да такіх абрадаў адносіцца і хаджэнне валачобнікаў — з'ява, спецыфічная для беларусаў. Валачобнікі хадзілі па вёсцы ад хаты да хаты, пелі песні, у якіх ушаноўвалі гаспадара і яго сям'ю, зычылі высокі ўраджай на палях, прыплод жывёлы ў хлявах, шчасце і дастатак у доме. Структура песень і ў значнай ступені змест былі блізкімі да калядак, але мелі мясцовыя асаблівасці. Адам Ягоравіч Багдановіч справядліва заўважаў: "Валачобныя песні ў кожнай мясцовасці Беларусі, нават у кожнай вёсцы некалькі відазмяняюцца, хоць сутнасць іх зместу ўсюды адна і тая ж: сельская гаспадарка з яе клопатамі — звычайная тэма валачобных песень", — пісаў ён у "Мінскім лістку" ў 1887 годзе (N 27). І прыводзіў найбольш тыповую песню валачобнікаў, у якой велічаецца гаспадар (у яго "боты слуцкай работы", футра сабалёвае, шапка бабровая), а святыя Вялічка і Юр'я прыйшлі на двор, чакалі Міколы, той жа скора з'явіўся і паведаміў, што рабіў:

— Па барах хадзіў — пчолкі садзіў,
Пчолкі садзіў раістыя,
Раістыя, медзяністыя.
Па межах хадзіў — жыта радзіў,
Жыта радзіў ядраністае,
Зерне к зерню, каласок у зямлю.
Каласок гнецца — жніва спадзяецца.

Песня заканчвалася трапнымі, мудрымі і паэтычна дасканалымі зычэннямі.

Валачобнікі хадзілі па вёсках на другі і трэці дзень Вялікадня. Псаломшчык Сяргей Карскі, які дэталёва апісаў гэты абрад у Віленскай губерні, у 1891 годзе ў "Віленскім весніку" (N 86) адзначаў, што "валачобнікі захаваліся толькі на Беларусі, таму што гэты велікодны звычай даўно ўжо прапаў у маларасійскай вёсцы, а ў Велікарасіі яго, здаецца, ніколі не існавала, таму што апошняе гэта свята праслаўляецца і апяваецца аднымі толькі духоўнымі асобамі". І гэта сапраўды так, валачобныя песні ў іншых месцах запісваліся толькі на сумежжы з беларускімі губернямі і, як правіла, ад беларусаў, якія там жылі.

П. Шпілеўскі яшчэ ў палавіне XIX стагоддзя заўважаў, што валачобнікі ставіліся да абрадавых дзеянняў як да рэлігійнага абавязку, а сяляне прымалі іх віншаванні як прыемныя і карысныя і ў большасці выпадкаў чакалі "іх як благаслаўлёных гасцей, а часткова і як прадвеснікаў лёсу гаспадаркі". Наколькі пашыраным было хаджэнне валачобнікаў, відаць з яго паведамлення, што ў іх гурт уваходзіла 8—20 чалавек, і ў кожным царкоўным прыходзе бывала не менш двух-трох, а ў некаторых парафіях — да дзесяці гуртоў. Абрад ахопліваў амаль усіх жыхароў вёсак і не мог не ўплываць на складванне этнічных своеасаблівасцей у духоўнай культуры беларусаў.

Такіх адметных абрадаў і звычаяў, рэгіянальных, мясцовых і агульнанацыянальных у духоўнай культуры беларусаў нямала. На іх мы звяртаем найбольшую ўвагу таму, што ў фарміраванні нацыянальнай самасвядомасці яны адыгрывалі самую эфектыўную ролю.

Спецыфічна нацыянальным з'яўляецца абрад куста, арэал пашырэння якога абмяжоўваецца Піншчынай, суседнімі з ёю раёнамі Украіны і часткай былога Слонімскага павета. З "кустом" хадзілі дзяўчаты на Тройцу. Яны выбіралі самую прыгожую маладую сялянку, надзявалі на галаву вянок з кветак, прыбіралі ва ўбор з зялёных бярозавых і кляновых галінак (часам на голае цела). У вёсцы Жытлін Слонімскага павета дзяўчаты звязвалі тоўстыя канцы наламаных кляновых галінак моцнымі ніткамі, у выніку чаго атрымліваўся "куст". На яго надзявалі другі, меншы, а дзяўчына ўлазіла ў куст так, што ён поўнасцю прыкрываў яе з галавы да ног, лісце ж галінак, якія спускаліся да ног, цягнуліся па зямлі.

Вялікі гурт дзяўчат (інакш називалі яго грамадой) разбіраўся па парах і на чале з "кустом" рухаўся па вясковай вуліцы, распяваючы кустaвыя песні, прыпыняўся на панскім двары і перад хатамі аднасяльчан. Хор дзяўчат пеў песні гаспадару, гаспадыні, дачцэ, сыну і іншым членам сям'і, у якіх выказваліся добрыя зычэнні. Змест і структура песень, мелодыя іх адрозніваліся ад валачобных і калядных песень.

Як і іншыя аграрна-каляндарныя абрады, хаджэнне з "кустом" у мінулым грунтавалася на сімільнай прадуцыруючай магіі і павінна было садзейнічаць пладароддзю, аб чым сведчаць наступныя словы песні, якая спявалася ў Іванаве: "Дзе куста вадзілі, там пшанічанька радзіла". У іншых куставых песнях такая відавочная сувязь з земляробчымі клопатамі селяніна прама не адлюстроўваецца, аднак утылітарна-магічная функцыя абрадаў і песень першапачаткова была дамінантнай і ў віншаванні гаспадароў, і ў зычэннях ім шчасця і дабрабыту, і ў самім хаджэнні з "кустом", і нават у танцавальных карагодных песнях. Змест многіх куставых песень адлюстроўваў абрадавыя дзеянні, мясцовыя падзеі, характарызаваў жыхароў пэўных вёсак, некаторыя асаблівасці сёл і інш. У віншавальных песнях ухваляўся гаспадар і яго сям'я.

Магчыма, лакальна абмежаваныя абрады з часам пашыраліся і станавіліся агульнанароднымі, нацыянальнымі, а ў некаторых выпадках распаўсюджваліся і сярод іншых, перш за ўсё суседніх народаў, калі ім імпанавалі пэўныя звычаі і песні. Аднак асобныя абрады заставаліся рэгіянальнымі, не выходзілі за межы этнасу і нават у ім не пашыраліся на ўвесь народ. Тым не менш і такія спецыфічныя мясцовыя абрады, і асабліва паэзія, якая арганічна ўваходзіла ў іх, эфектыўна садзейнічалі ўсведамленню нацыянальнай адметнасці культуры, фарміраванню этнічнай самасвядомасці і адначасова кансалідацыі народа.

Шырокае распаўсюджванне мелі сярод беларусаў купальскія абрады. Купальскае свята адзначалася ва ўсіх еўрапейскіх народаў, але традыцыі абрадавых урачыстасцей захаваліся ў нямногіх з іх. У купальскіх абрадах, якія найлепш захаваліся ў Беларусі, пераважаюць адметныя нацыянальныя рысы. Вось што пісаў П. Бяссонаў у названай вышэй кнізе "Беларускія песні": "Купала Беларуская, з яе асаблівасцямі, якія ёсць, вылучаецца ва ўрачыстасці, абрадах і песнях, той жа рысай існавання і месцажыхарства, як беларускае племя і гаворка, — сканцэнтраваннем у вобласці Віленскай, часткай Смаленскай і Віцебскай".

На Купалле ішлі ўсе — і старыя, і малыя, дома пакідалі толькі тых, хто ахоўваў хаты. Найбольшы размах свята набывала ўначы. Удзельнікі рабілі жаночую ляльку з саломы, канапель, хворасту. Насілі яе вакол вогнішча з танцамі і песнямі, падпальвалі і пазней тапілі ў вадзе. Месца, дзе збіраліся людзі на свята, агароджвалася, абсаджвалася зялёнымі дрэўцамі, ператваралася ў свяшчэннае, запаведнае. П. Бяссонаў адзначаў таксама, што толькі ў гэты ж час і парушалася чыстае, бязгрэшнае сямейнае жыццё беларусаў. Як і на Масленіцу, дзе разгул і эратызм праяўляўся больш адкрыта, на Купалле народ дапускаў вольнасці ў паводзінах, нястрыманасць у выразах і песнях, што выклікала вясёлы смех прысутных. Ва ўсім гэтым адбіваліся нацыянальныя рысы.

Многімі нацыянальна адметнымі рытуальнымі дзеяннямі ў аграрных цыклах вылучаюцца жніўныя абрады і звязаная з імі паэзія, вытокі якіх адносяцца да глыбокай старажытнасці і якія захавалі ў сабе рэшткі міфалагічных поглядаў нашых далёкіх продкаў, магчыма, плямёнаў, што жылі на тэрыторыі пазней утворанай Беларусі.

Спецыяльны рытуал з мясцовымі асаблівасцямі існаваў ужо ў час зажынак. Асаблівае значэнне надавалася першаму снапу. Сноп ставілі ў хаце на покуце да таго часу, пакуль не пачыналі вазіць жыта ў гумно. Калі ж прывозілі першы воз, гаспадар браў цэлы бохан хлеба, загорнуты ў абрус, клаў каля дзвярэй гумна на таку і праз яе правозіў воз з жытам. Рабілася гэта для таго, каб не пераводзіўся хлеб і каб старога хлеба заўсёды хапала да новага.

Лепш захаваліся ў розных народаў падобныя дажынкавыя абрады, асабліва абрад "завівання барады", вядомы ў балгар, грэкаў і інш. Але ў беларусаў "завіванне барады" было ў дэталях адметным і нават мела мясцовыя адрозненні.

Паводле апісання А. Пшчолкі (публікацыя 1903 года), "бараду" (некалькі нязжатых каласоў) палолі, захоўваючы пэўны рытуал (у некаторых вёсках палолі траву рукой, абгорнутай хусткай або рукавом). Адна з жней прыносіла яечню, бохан хлеба, соль, складвала ўсё гэта каля "барады" і пад песню, у якой славілася "барада", выпалвалі траву. Жняя брала хлеб, хрысцілася, клала хлеб у "бараду" са словамі: "Дарую цябе, ніўка, хлебам з соллю, а ты нас сыцццю сыці і спорам, і добрым здароўем!". Жанчыны елі яечню, варажылі. Хлеб і соль клалі звычайна не на зямлю, а на падасланае палатно, хустку.

Паступова стваралісяаграрныя абрады з мясцовымі асаблівасцямі, якія ў сваёй аснове ў далейшым станавіліся агульнанацыянальнымі або рэгіянальнымі.

Не меншую ролю ў фарміраванні этнічнай самасвядомасці беларусаў адыгрывалі сямейныя абрады і сямейна-абрадавая паэзія, асабліва радзінная (хрэсьбінная), спецыфічна нацыянальная, беларуская, і вясельная. Аднак пра сямейна-абрадавую паэзію прыйдзецца напісаць пазней.

**Анатоль ФЯДОСІК.**

# "РОЗГІ"... НАРАСХВАТ

У Слонімскай узбуйненай друкарні выйшла кніжка літаратурных пародый маладога паэта Міхася Скоблы.

Нарадзіўся ён у 1966 годзе ў вёсцы Паляжын на Зэльвеншчыне. Скончыў Дзярэчынскую сярэднюю школу і Белдзяржуніверсітэт. Піша вершы і пародыі. У 1990 годзе ў бібліятэчцы "Маладосці" выйшаў першы паэтычны зборнік Міхася Скоблы "Вечны Зніч". І вось у Слоніме двухтысячным тыражом аддрукавана кніжка літаратурных пародый маладога аўтара "Розгі ў розніцу".

Наогул, парадыстаў у Беларусі нямнога. Сярод сучасных пісьменнікаў вылучаюцца Р. Барадулін, Я. Таўшчэзны, А. Зэкаў, Я. Малец і Г. Юрчанка. І вось на літаратурным небасхіле з'яўляецца яшчэ адзін яркі і арыгінальны парадыст, творы якога друкаваліся ў "Днях паэзіі", часопісах "Полымя", "Першацвет", "Вожык".

У сваіх літаратурных пародыях, якія склалі кніжку "Розгі ў розніцу", аўтар трапна прыкмячае недахопы ў творчасці нашых паэтаў і з добразычлівым гумарам умела дасягае эфекту. Асабліва шмат арыгінальных пародый у зборніку на паэтак. Пад пяро парадыста трапілі В. Аколава, С. Басуматрава, Р. Баравікова, З. Дудзюк, В. Вярба, М. Гудкова, Л. Паўлікава, Л. Рублеўская. Але гэтыя таленавітыя жанчыны, верыцца, не пакрыўдзяцца на аўтара "Розгаў...", а наадварот — усміхнуцца. Вось, напрыклад, як завяршае Міхась Скобла сваю пародыю на верш Веры Вярбы:

**Вось так прыкідваю, гарую,**
**Яечню мрою на стале.**
**Калі ж урад мне падаруе**
**Нібы Купалу — "Шаўрале"!!**

Не пакрыўдзіў Міхась Скобла сваёй няўважлівасцю і паэтаў-землякоў з Гродзеншчыны, але хутчэй за ўсіх, відавочна, паспяшаюць у кнігарні менчукі Рыгор Барадулін, які "з народзінаў вярблюд, народным стаў паэтам", Леанід Галубовіч, у якога "кожны верш — гісторыя, скрыжаль", Алесь Пісарык ды Алесь Пісьмянкоў.

Неяк жартам малады літаратуразнаўца Алесь Бельскі сказаў: "На сённяшні дзень самы здольны крытык у беларускай літаратуры — гэта Міхась Скобла. Яго пародыі — самыя лепшыя рэцэнзіі".

**Сяргей ЧЫГРЫН.**



## ВОСЕНЬСКІЯ ФАРБЫ

**Ледзь прыкметны світанак зазірнуў у акно, і я выйшаў на падворак. Нараджалася восеньская залатая раніца. Вясковыя бярэзіны-прысады, нібы жанчыны, прыбраліся на асенні фэст і маўчалі ў цішы. Світанак ішоў упэўнена і хутка, паветра было густое ад асенняга водару.**

**З-за лесу выглянула скупое сонца. Прайшло, адгуляла жыццё. Мне падалося, што ўсё наваколле ў задуменнасці, чагосьці чакае.**

**Вось бы ведаць, чаго!**

***

**Здараюцца прыгожыя дзянькі і восенню: добрае сонца, лагоднае паветра, чыстае неба, засынаючыя дрэвы. Векавыя вербы ўглядаюцца ў нёманскае люстэрка, хутка гуляе на іх верхавінах ветрык, голле шапаціць, ствараючы сваю мелодыю.**

**Ці ж гэта не мелодыя восеньскага дня! Відаць, яна дапамагае таленавітым людзям ствараць нашы народныя песні, такія мілагучныя, што аж сэрца млее.**

***

**Наплылі спакойныя хмары і аблажылі наваколле. "Пагода-здрадніца пачала выплакваць сірочыя слёзы", — прыпомніў народную прымаўку і стаў пад густую яліну. Спакойны грыбны дожджык па голлі нібы шэпча: "Піце, піце і выходзьце па лесе гуляць"...**

**"Заўтра будзе грыбна", — падумаў і пайшоў з лесу.**

**На ўзлеску кінуліся воку пачарнелыя прыбраныя палі, халодны ветрык абмываў твар, запахла вільгаццю.**

**Яўген КРАМКО.**

## ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ "ГОЛАСУ РАДЗІМЫ"!

**Калі вы хочаце і надалей атрымліваць нашу газету, паклапаціцеся, калі ласка, аб падпісцы на "Голас Радзімы" на 1994 год. Падпісная кампанія пачалася ўжо з 1 верасня і працягнецца да сярэдзіны лістапада. Але не адкладвайце справу на "потым". Лепш зрабіць гэта загадзя.**

**Усе даныя аб "Голасе Радзімы" ёсць, вы іх знойдзеце і ў рэспубліканскім, і ў каталогу СНД. Кожны дзень вашага прамаруджвання — лішні крок да магчымасці страціць сувязь з "Голасам Радзімы", адзінай рэспубліканскай газетай, якая жыве і працуе як для замежных суайчыннікаў, так і для нашых суграмадзян.**

**Раілі б таксама тым, хто купляе газету "Голас Радзімы" ў кіёсках "Саюздруку", падпісацца на нашу газету. Гэта гарантыя таго, што "Голас Радзімы" заўсёды будзе з вамі.**



# РАДЗІВІЛЫ І ІХ КАРЭЛІЦКІЯ ГАБЕЛЕНЫ

**(Заканчэнне. Пачатак на 5-й стар.).**

У дэкаратыўным запаўненні бардзюрнага абрамлення размешчаны элементы зброі, а ў верхнім барочным картушы — герб Радзівілаў, у ніжнім — лацінскі надпіс аб падзеях, якім прысвечаны габелен. У каларыце пераважае блакітна-сіні колер і зялёны. Чырвоныя, ружовыя і жоўтыя колеры ад часу пабляклі, і габелен выглядае як блакітна-серабрыстая старажытная фрэска.

2. Габелен "Узяцце ў палон Станіслава Міхаіла Крычэўскага пад Лоевам" выкананы з дзвюх асобна тканых частак і сшыты па вертыкалі. Метак не мае. Памер 330x349 сантыметраў. Знаходзіцца таксама ў Кракаўскім нацыянальным музеі, паступіў у 1952 годзе з музея рамёстваў у Кракаве, куды быў падараваны Генрыхам Беразоўскім з Падолля ў 1884 годзе.

Кампазіцыя адлюстроўвае перамогу Януша Радзівіла (1612—1655) над атрадамі Багдана Хмяльніцкага на чале з палкоўнікам Крычэўскім. Бітва адбылася 21 ліпеня 1649 года. На полі бою знайшлі цяжка паранена Крычэўскага і прывезлі яго ў лагер пераможцаў да гетмана. Тут таксама ўжыты кампазіцыйны прыём розначасовых падзей — у цэнтры кампазіцыі, г. зн. на другім плане, паказаны палкоўнік, калі яго прывезлі да гетмана на павозцы, а на пярэднім плане паказаны той жа знясілены Крычэўскі, які сядзіць босы на зямлі, яму салдат падае ваду, побач на вогнішчы гатуецца ў катле ежа. Габелен запоўнены дробнымі постацямі вояў-пераможцаў, шляхты і звычайных разявак, нават дзяцей, якія гуляюць з сабакамі. Па самы гарызонт цягнуцца густа пастаўленыя вайсковыя шатры. Бардзюрнае акаймаванне таксама, як і ў папярэдняга габелена, складаецца з элементаў зброі, што чаргуецца з пышнымі стужкавымі бантамі і двума картушамі, адзін з якіх у стылі ракайль (у ім размешчаны лацінскі тэкст, прысвечаны адлюстраваным падзеям), верхні картуш запаўняе герб Радзівілаў. У каларыце ладна згарманізаваны блакітна-сіняя і ружова-чырвоная гамы, якія добра захаваліся.

3. Фрагмент габелена "Бітва пад Славечнай" уяўляе сабою толькі правую частку. Памер 319x206 сантыметраў. Мае на верхняй варштатавай стужцы метку М К (Марыя Кулакоўская), на ніжняй стужцы — герб "Пулава", а таксама лацінскі надпіс і дату, якія сведчаць аб кансервацыі габелена ў 1878 годзе Марыяй з Сангушкаў, жонкай Альфрэда Патоцкага, уладара ткацкіх майстэрань у Бучачы (Украіна). На пачатку XYIII стагоддзя габелен быў маёмасцю Людвіга Радзівіла (1773—1830), які жыў у Сталовічах (Баранавіцкі раён). Пасля яго смерці набыты арандатарам Сталовіч Пэлікшай, сын якога Карней ахвяраваў гэты фрагмент музею князёў Любамірскіх у Львове ў 1872 годзе. Цяпер знаходзіцца ў гістарычным музеі Львова.

Сюжэтам паслужыў гістарычны факт падаўлення сялянскага бунту на Каменшчыне ў Мазырскім павеце, якое па загаду гетмана Міхала Казіміра выканаў у 1755 годзе паручнік Ю.Панятоўскі. Ён без цяжкасцей разграміў бунтароў каля р. Славечна. На першым плане на ўздыбленым кані, пакрытым ружовым вышытым чапраком, паказаны камандуючы Панятоўскі (апрануты ў блакітны плашч), які булавой паказвае накірунак наступлення. Перад ім два дастойнікі на конях, а ў глыбіні, на другім плане, падзеі бітвы: разгромленыя паўстанцы імкнуцца пераплыць раку. Завяршае кампазіцыю вялікае дрэва з ледзь бачнымі зялёнымі лісточкамі (падзеі адбываюцца вясной). Бардзюр, як і ў двух папярэдніх, запоўнены элементамі зброі і стужак. У ніжнім картушы таксама лацінскі надпіс аб падзеях, якія тут адлюстраваны, у верхнім — герб Радзівілаў. У каляровай гаме гарманічна спалучаюцца блакітна-сінія, ружовыя і залаціста-жоўтыя адценні. Польскі даследчык І. Пагачэўскі адзначыў агульнасць кампазіцыі гэтага габелена з кампазіцыямі габеленаў галандскага мастака Ван дэр Мэўлена, які стварыў серыю габеленаў па заказу Людовіка XIY, ухваляючых Караля-Сонца. Відавочна радзівілаўскія мастакі былі знаёмыя з серыяй французскіх габеленаў.

4. Габелен "Наданне тытула князя Святой Рымскай імперыі Мікалаю Радзівілу Чорнаму імператарам Карлам Y у 1547 г." створаны паводле жывапіснай карціны мастака Дэль Бенэ, якая знаходзілася ў нясвіжскай калекцыі. Габелен ткалі паводле кардона Ксаверыя Дамініка Гэскага суцэльным палатном, але захавалася толькі яго палавіна. Меў памеры 320x590 сантыметраў. Знаходзіцца ў Варшаўскім нацыянальным музеі. Адкуль паступіў, пакуль не высветлена. Ёсць розныя меркаванні аб месцы яго вырабу. Напрыклад, польскі даследчык З.Жыгульскі лічыць, што габелен вытканы ў 1752 годзе на Нясвіжскай мануфактуры, а польскія даследчыкі М. Хэнель-Бярнасікава і М. Півоцкая — што гэта выраб Карэліцкай мануфактуры каля 1760 года.

Кампазіцыя выканана ў стылі пышнага барока. Дзеянне адбываецца ў высокай зале палаца Карла Y у Аўсбургу, зводы якой падтрымліваюць стромкія калоны з барочнымі капітэлямі, зала заліта залацістым святлом, блікі якога мадэлююць формы складак чырвона-залацістых мантый Карла Y, які сядзіць на троне, і ўкленчанага перад ім Мікалая Чорнага. Урачыстая цырымонія адбываецца ў прысутнасці князёў Вялікага Княства Літоўскага. У каларыце пераважае чорна-залацістая гама, а не блакітна-сіняя. Кайма таксама запоўнена іншымі дэкаратыўнымі элементамі (кветкамі, а не ваеннымі атрыбутамі), але трактоўка форм і постацей такая ж, як і ў папярэдніх. Мы далучаемся да думкі апошніх даследчыкаў.

5. Габелен "Пацвярджэнне княскага тытула Радзівілаў на сейме ў Петрыкове". Знаходзіцца ў Небароўскім замку (філіял Варшаўскага музея). Вылучаецца камернымі памерамі (90x163 сантыметраў) і больш сціплымі мастацкімі вартасцямі. Ткалі яго прыкладна ў 1790 годзе ў Карэлічах. Хоць кампазіцыйная схема падобная да вышэйзгаданага габелена, тут фігуры пададзены больш статычна. У каляровай гаме пераважае блакітны колер, дробнымі плямкамі вылучаны чырвоны, жоўта-залацісты, шэры і карычневы розных танальнасцей.

Маецца інфармацыя, што на Карэліцкай мануфактуры былі вытканы партрэтныя габелены з выявамі Януша XI, Крыштафаў I і II, Міласлава Y, Міхала I Радзівіла і інш.

Пасля смерці Міхала Казіміра Рыбанькі Карэліцкая мануфактура дасталася яго сыну Каралю Станіславу па мянушцы пане Коханку, пры якім мануфактура паступова прыйшла ў заняпад. У 1792 годзе "Гандлёвая газета" з жалем паведамляла, што "шпалерную фабрыку" зліквідавалі. Канцылярскія кнігі Нясвіжа захавалі прозвішчы ткачых Анастазіі Маркевіч (жонкі садоўніка з Альбы), Марыі Кулакоўскай, Тарэсы Лютніцкай з Міра (жонкі мастака Казіміра Лютніцкага), Масюкевіч, Антакоўская, Бахановіч (жонкі нясвіжскага капельмайстра). Да выканання адказных творчых ткацкіх работ запрашалі нават здольных рукадзельніц з ліку жонак прыдворных. Важна адзначыць, што майстэрства габеленавай тэхнікі развівалася ў Беларусі, у тым ліку ў Карэлічах, на базе традыцыйнага майстэрства мясцовых ткачых, без удзелу іншаземных спецыялістаў, як гэта было ў галіне мастацкага шкла. Кампазіцыі габеленаў вылучаліся шчырай наіўнасцю ў трактоўцы вобразаў і замілаваннем чырвона-блакітным каларытам.

3. Жыгульскі лічыць выробленую ў Карэлічах серыю габеленаў, прысвечаную гісторыі роду Радзівілаў, "лебядзінай песняй" усяго габеленавага мастацтва XYIII стагоддзя, выкананага на ткацкіх мануфактурах Украіны, Польшчы і Беларусі. Вышэй іх майстэрства ніхто не ўзняўся. А кароль Станіслаў Панятоўскі, вялікі знаўца мастацтва і яго прыхільнік, наведаўшы Нясвіжскі замак у 1784 годзе, адзначыў пасля агляду габелена "Парад войскаў пад Заблудавам", што гэты твор надае гонар Карэліцкай мануфактуры.

**Мая ЯНІЦКАЯ,**
**кандыдат мастацтвазнаўства.**

**Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



**НАШ АДРАС:**
220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і зверстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Індэкс 63854. Зак.1373. Падпісана да друку 27. 09.1993 г.